*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# ЗАЛЕССЕ АГІНСКАГА





*Макет сядзібы Залессе (Смаргонскі раён). Аўтар Ігар Кузякін, 11 клас. Кіраўнік Тацццяна Васільеўна Вайтэнка.*

Колішняму гаспадару гэтай сядзібы — Міхалу Клеафасу Агінскаму — прысвяціў сваё эсэ наш незабыўны Уладзімір Караткевіч. Назваў ён гэты твор прыгожа і рамантычна: «Песня Паўночных Афін». Мо Залессе і сапраўды Паўночныя Афіны? Мураваны палац для сям'і Агінскіх будаваўся на зары XIX стагоддзя, спачатку па праекце архітэктара Міхала Шульца (быў такі прафесар, выкладаў у Віленскім універсітэце), а потым пад кіраўніцтвам Юзафа Пусэ (таксама з Вільні). Яшчэ да заканчэння будаўніцтва сюды прыязджаў не адкуль-небудзь, а з Парыжа італьянскі (менавіта італьянскі) кампазітар Джузэпэ Паліяні. Ён жыў тут больш як дзесяцігоддзе і выкладаў дзецям Агінскага музыку. У напаўказачным парку стаяла альтанка Амеліі, недзе побач адлюстроўвалася ў рэчцы Бабрынцы блакітнае неба і працаваў вадзяны млын… Рамантычнае гэта месца. Так і цягне ў гістарычнае падарожжа.




ISSN 0320-7579

№ 7/2015(1046)

# БЯРОЗКА

натхняцца ўзорамі

**№7**

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ
Пра кветкі, скарбы і вядзьмарак

## ГАДЗІННІК МАНУВІРА *etc.*
Музейныя таямніцы

**КІНАШКОЛА**
**УРОК № 3**
**+ КОНКУРС!**

## ПАЛІНА РЭСПУБЛІКА
& яе «Бясконцы красавік»

Малюнак Варвары Карзюк, 8 клас, гімназія № 75, Мінск

## ЗАБАЎКІ ДЗЯДЗІ ВАНІ



# Буслы

На паляне непадалёк ад нашай хаты растуць побач дуб-велікан і стромкая бярозка. У спякотныя летнія дні дуб дае прахалоду, можна адпачыць у яго цяньку. Часам здарыцца сумны настрой, тады варта паглядзець на верхавіны гэтых дрэў, якія ўзносяцца, здаецца, да самага неба, у блакіт, дзе паволі плывуць белыя аблачынкі, — і сум адступае.

Сёлета вясной мы з братам заўважылі, што над дубам і бярозай кружыць пара буслоў. Мы пабеглі да таты.

— Тата! — закрычалі наперабой. — Буслы хочуць пасяліцца каля нас, лётаюць над дубам. Але ім голле перашкаджае. Трэба зрабіць на вяршыні дрэва гняздо!

Тата быў вельмі рады буслам. Але, падумаўшы, сказаў:

— Не, дзеткі. Каб на дубе змайстраваць гняздо, трэба зрэзаць самую верхавінку дрэва. Прырода нам гэтага не даруе. Ды і не падымецца мая рука спілаваць хоць галінку. Дубу не менш за два вякі. Ён прынёс нам прывітанне ад далёкіх продкаў. Няхай жыве доўга-доўга, каб яго ўбачылі наступныя пакаленні людзей. А мы для гнязда ўкапаем высокі слуп непадалёку ад дрэва.

Буслы зрабілі некалькі кругоў і паляцелі далей. Нам стала сумна, што лета нашае пройдзе без гэтых вялікіх грацыёзных птушак. Але наступнай вясной, спадзяёмся, буслы ўсё ж прыляцяць да нас.

***Дар'я ЛІХТАР,***
***7 клас, Вялічкавіцкая СШ, Салігорскі раён***

# Поры года

Усім вядома выказванне кшталту: «Поры года як перыяды жыцця чалавека». Яно можа гучаць па-рознаму, але сутнасць захоўваецца.

Вясна — пара абуджэння ад зімовага сну: цвітуць кветкі, на галінках прачынаюцца пупышкі, ды і многія жывёлы таксама абуджаюцца пасля зімовай спячкі. Гэтае абуджэнне можна сімвалізаваць як з'яўленне на свет дзіцяці, прыход яго з невядомасці ў жыццё.

Лета — пара яскравасці, весялосці, цеплыні. Росквіт прыроды летам — тое ж самае, што маладосць — росквіт жыцця чалавека.

Потым ідзе восень. Для кагосьці яна прыгожая і рознакаляровая, для іншых — сумная і шэрая або проста абыякавая. Чалавек пасталеў — і яго стаўленне да восені адлюстроўвае ягоны погляд на жыццё, такі нязменны, непарушны. Бо ўсе людзі сталага веку міжволі адчуваюць у глыбіні душы нейкую патаемную еднасць менавіта з гэтай парой года.

А вось і зіма. Снег белы, як сівізна ў старых людзей. Усё заміра́е, заціхае, засынае. Чалавек ужо ў «вечным сне». Але чаму ў вечным? Яго дух, душа і энергія застаюцца дзесьці, каб «вясной» прыйсці на зямлю зноў, адноўленымі і чыстымі. Маладымі.

Нехта можа сказаць: «Якая душа? Які дух? Лухта нейкая!» І я не буду спрачацца. Кожны верыць у сваё. А я веру ў людзей. І ў сімвалічную звязку з порамі года. Мы ўсе злучаны з прыродай і паміж сабой, толькі не заўсёды жадаем заўважыць гэта. Бо што ёсць прырода? Гэта еднасць мільёнаў, мільярдаў істот, у кожнай з якіх ёсць хоць маленькая, але душа. І невядомая сіла робіць з іх душу адзіную — душу Зямлі.

А поры года — інструменты сувязі гэтай душы з кожнай яе часцінкай, крыніца старажытнай мудрасці. І мы павінны навучыцца піць з жыватворнай гэтай крыніцы.

***Юлія РАЙКОВА,***
***8 клас, гімназія № 10, Мінск***

# Свет, у якім мне хацелася б вырасці

Прывітанне, шаноўны дружа!

Хачу расказаць табе пра свет, у якім мне хацелася б вырасці. Уяві сабе свет, дзе, як у казцы, ёсць прынцы і прынцэсы, дзе ўсё прасякнута каханнем, дабрынёй, дзе вельмі-вельмі шмат сяброў, сапраўдных сяброў, якія цябе зразумеюць, падтрымаюць у цяжкую хвіліну, ніколі не павернуцца да цябе спінай. Свет, у якім няма ніводнай кропелькі злосці, зайздрасці, здрады, свет, дзе адчуваеш

сябе шчаслівым, патрэбным хоць каму-небудзь. Вось у такім свеце мне хацелася б жыць, але гэта толькі пачатак.

У маім свеце не існуе гора, нават само гэта слова не ўжываецца, ніколі не льюцца слёзы, ні дарослыя, ні дзіцячыя, таму што вакол пануе Дабрыня. Кожны чалавек радуецца таму, што жыве, таму, што вакол яго добразычлівыя твары знаёмых і незнаёмых людзей. Таму, што з пляцовак каля шматпавярховых будынкаў чуюцца вясёлыя, шчаслівыя галасы дзяцей, а не п'яная лаянка дарослых, якіх нешта адзначаюць. У маім свеце, увогуле, ніхто не п'е і не курыць, а займаецца спортам, вядзе здаровы лад жыцця. А значыць, няма хвароб, якія прыносяць боль і пакуты, якія калечаць чалавека.

У маім свеце няма не тое што войнаў — нават дробязных спрэчак. Сёння, калі я чую навіны пра тое, што адбываецца ў суседняй краіне, мне становіцца страшна. Навошта? Дзеля чаго? За што?..

Я хачу жыць, жыць мірна з людзьмі рознымі па характары, нацыянальнасці. Хачу жыць побач з таленавітымі людзьмі, якія ўмеюць ствараць вершы, чароўную музыку ці іншыя віды мастацтва, якія прыносяць толькі задавальненне, асалоду ў душу і сэрца кожнага жыхара майго свету. Ад гэтага яны становяцца яшчэ больш шчаслівымі, вучацца разумець адно аднаго, саступаць і выбачаць, адкрываюць у сабе тыя лепшыя якасці, якія былі схаваны занадта глыбока.

Мне хацелася б вырасці ў свеце, дзе я адчувала б сябе шчаслівай ад таго толькі, што мяне любяць і я люблю.

Вось толькі любыя змены да лепшага трэба пачынаць з сябе, са сваёй сям'і, вуліцы, на якой жывеш, са школы, у якой вучышся, з горада, дзе нарадзіўся. І калі кожны зразумее і ўсвядоміць гэта, то разам мы зможам стварыць свет, у якім захочуць вырасці не толькі нашы дзеці, але і ўнукі.

Павер, дружа, будучае — у нашых руках!

***Марына ЗАБАРОЎСКАЯ,***
***7 клас, гімназія № 1, г. Свіслач, Гродзенская вобласць***

*Казкі школьнага ранца*

# Дрэва Таемны Космас

Жыло сабе дрэва, якое клікалі Таемным Космасам. Было яно блакітнае і ў форме кола. Дрэва жыло ў вельмі цёмным кутку космасу. Аднойчы яно пакацілася ў Беларусь і сустрэла там вавёрку. Вавёрка надумала папрасіць дрэва, каб тое засталося тут жыць. Дрэва паведаміла, што засталося б тут, але яму трэба ляцець у космас. Дрэва было вялікае, і вавёрка прыдумала, што ўвесь лес будзе на дрэве. Вавёрка склікала ўсіх жывёл і сказала:

*Ілюстрацы да гэтай рубрыкі падабраны са збору малюнкаў Ганны БАРЫСАВЕЦ (гімназія № 1, Слуцк)*

— Да нас прыляцела дрэва, якое клічуць Таемным Космасам. Увесь наш лес змесціцца на дрэве, і мы разам з ім будзем вандраваць па космасе.

Усе ўсцешыліся, асабліва дрэва, бо разумела, што яно зможа быць са сваімі новымі сябрамі.

Усе ўзяліся за працу. Яны насілі свае хаткі, кусточкі, дрэвы, траву і сцяжынкі. Неўзабаве ўвесь лес апынуўся на дрэве. Заставалася толькі апрануць вялікі-вялікі шкляны шалом на ўвесь лес. І як толькі яны яго апранулі, дрэва ўзляцела.

Усе сталі назіраць, што дзеецца ў космасе. А дрэва сказала:

— Паляцелі шукаць прыгоды!

І яны наведалі Меркурый, пазагаралі там, паглядзелі на прыгожую Венеру, на жалезны Марс, вялізны Юпітар, колцы Сатурна, Уран, пабачылі сіні Нептун. А потым паляцелі да сузор'яў.

Дрэва заўважыла Малую і Вялікую Мядзведзіцы. І раптам Мядзведзік выгукнуў:

— Гэта мае сузор'і!

А Зайчаня заўважыла Касіяпею і сказала:

— А вось і маё сузор'е.

Вавёрка знайшла сузор'е Арэх:

— Паглядзіце, якое смачнае сузор'е!

Вожык угледзеў сузор'е Грыбок і мовіў:

— Няма нічога смачнейшага за грыбок.

Пасля дрэва паведаміла:

— А цяпер наведаем маю хатку.

— Якая яна цёмная! — здзівіўся Воўк.

— Вядома ж, няма нічога цямнейшага за маю хатку, — сказала дрэва, — мяне так і клічуць — Таемны Космас.

Усім было там вельмі добра і ўтульна. А вакол падаў дождж з іскрынак.

***Альжбэта МАЛІШЭЎСКАЯ-СПРЫНЧАН,***
***1 клас, гімназія № 23, Мінск***

# Маленькі чалавек і сонца

Маленькі чалавек стаяў на зямлі і бачыў яркае сонечнае святло. Трава, быццам сцены, закрывала яго з усіх бакоў, але светлыя промні ўсё ж прабіваліся скрозь расліны. Маленькі чалавек сеў на каменьчык, нагрэты ад сонечнага цяпла. Каменьчык быў невялічкім, і звычайны чалавек нават не заўважыў бы яго, але для маленькага чалавека гэта быў вялікі і ўтульны камень.



— Як добра, што я знайшоў такое выдатнае месца, каб пасядзець, — з усмешкай сказаў сам сабе маленькі чалавек і скіраваў позірк у неба, пакрытае аблокамі, якія былі падобны да вялікіх кавалкаў ваты.

— Для чаго патрэбны аблокі? Можа, на смак яны як цукровая вата? — маленькі чалавек пачухаў патыліцу і стаў з цікавасцю разглядаць белыя аблокі. Раптам адно з іх загарадзіла сонца, на зямлю лёг цень. Твар маленькага чалавека абдало свежым паветрам.

— Напэўна, сонца есць гэтую цукровую вату. Бо і яму трэба есці, яму таксама патрэбен перапынак на абед, — чалавек не засмуціўся, што сонца сышло. Бо ён разумеў, што жывое можа часам стамляцца.

Прайшло пяць хвілін, вецер адагнаў воблачка ад сонца, быццам даючы зразумець, што перапынак скончаны.

— Як сонейка мала адпачнула! Яно столькі робіць для нас! Дае нам шмат цеплыні, яскравага святла, а вялікім людзям — загар. Але навошта ім гэты загар? — маленькі чалавек зноў у неразуменні пачухаў патыліцу. — Людзі такія дзівацкія! Яны вельмі прызвычаіліся да сонца, не шануюць яго, не думаюць пра яго. Але што было б, калі б іх пазбавілі ўсяго таго, што дае ім сонца? Усюды панавалі б цемра і холад. Увесну не квітнелі б расліны, улетку вада б не награвалася, нельга было б у ёй купацца. Мядзведзікі не прачыналіся б пасля спячкі, бо яны перасталі б адчуваць вясну, — чалавек з цікавасцю прыглядаўся да сонца. Яно здавалася яму не такім ужо далёкім і незразумелым, як часам здаецца нам. У ім ён бачыў веліч, прыгажосць і моц. Захапленне перапаўняла сэрца Маленькага чалавека. Стаіўшы дыханне, ён назіраў за сонцам, як з кожнай хвілінай яно павольна перабіралася па небе, даруючы кожнаму кавалачку зямлі сваё цяпло.

Увечары сонца знікла. Неба пацямнела, стала сінім, амаль чорным. На ім, як маленькія ліхтарыкі, запаліліся зоркі.

— А зараз, напэўна, людзі ўжо і забыліся, што днём было сонца. Чаму людзям так падабаецца прывыкаць да чагосьці, не бачыць у штодзённасці нешта адметнае? — Маленькі чалавек сумна ўздыхнуў. — Вось бы ўсе істоты на зямлі лавілі кожнае імгненне свайго жыцця! Вось бы гэтыя істоты шанавалі тое, што дала ім прырода, і захапляліся гэтым кожны дзень, не забываючы, што без гэтага яны не змаглі б жыць! І хай сонейка не крыўдзіцца на людзей!

Маленькі чалавек захутаўся ў ліст дзядоўніку, зручней лёг на камень і заснуў. Яго сны былі светлымі і чыстымі, а раніцай ён прачнецца і запомніць кожны цудоўны момант свайго жыцця. І ніколі, ніколі яму гэта не надакучыць, бо яму падабаецца жыць, яму падабаецца гэтае цудоўнае жыццё. Шкада толькі, што яно даецца толькі аднойчы...

***Марыя ДЗЕРБІЧАВА,***
***9 клас, СШ № 207, Мінск***



# Чаму расліны не размаўляюць

Калісьці, кажуць, усе расліны размаўлялі. Можа, яно і далей так было, калі б не адзін выпадак...

— Слухайце! Я самы прыгожы! Я самы-самы! — пачуўся нечы крык.

— Ты? — здзівіліся кветкі і з пагардай паглядзелі на Быльнёг.

— Не, даражэнькі, так нельга! Толькі конкурс прыгажосці гэта можа вырашыць. І я першая яго ўдзельніца! — запэўніла Ружа.

— Можа, вызначыць, хто з нас самы разумны? — нерашуча спытаў Дзьмухавец і паківаў пухнатым шарыкам.

— Не, лепш конкурс водару, — дыхнула Півоня.

Доўга спрачаліся кветкі, пакуль маленькая Фіялка не праявіла вялікі розум:

— Нічога не зробіш, трэба правесці тры конкурсы. Але патрэбна журы.

— Прапаную сябе ў журы! — крыкнуў Дзядоўнік. — Я непрыгожы, розумам таксама не выйшаў… Самае тое для журы.

— І я хачу судзіць, — папрасіўся Сухацвет.

Да Сухацвета і Дзядоўніка далучылася Крапіва, надта ўжо яе якасці былі тут дарэчы.

На наступны дзень сабраліся ўсе кветкі на паляне. Мітусяцца, гамоняць, пераклікаюцца, каб не прагадаць з конкурсам. А бедны Ландыш ніяк не мог вырашыць, чаго ў ім больш: ці то прыгажосці, ці то розуму, ці то водару. Так і назіраў за іншымі збоку.

Якіх толькі ўбораў не было ў кветак! А пахі прыемна дурманілі паветра. Разгадваючы самыя цяжкія загадкі, удзельнікі-інтэлектуалы аж асіплі ад крыку.

Вось сонца пачало ўжо садзіцца за небасхіл. Трэба падводзіць вынікі. Параіліся члены журы, і тут Дзядоўнік аб’яўляе:

— Усе вы малайцы! Усе такія прыгожыя, разумныя, цудоўна пахнеце. Немагчыма сярод вас вызначыць лепшых. І каб не зайздросцілі вы адно аднаму, каб жылі заўсёды ў згодзе, пераможцам буду я!

— Чаму гэта ты? Ты нікуды не варты! — закрычаў Сухацвет. — Тады ўжо лепш мяне выбірайце!

Што тут пачалося! Бясконцыя сваркі, папрокі…

Як ні спрабавала Сонейка прымірыць расліны, нічога ў яго не атрымалася. І тады раззлавалася яно і пазбавіла ўсе расліны голасу.

З таго часу цішыня і маўчанне пануюць сярод чароўнага зялёнага свету.

***Вікторыя ПЛЯСКАЧ,***
***9 клас, СШ № 4, Мар’іна Горка***

Фота Ганны КІРЭНКА

***Творы ўдзельнікаў гуртка «Юны журналіст», які працуе пры «Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі» горада Петрыкава пад кіраўніцтвам Галіны Мікалаеўны Міцкевіч і якому летась споўнілася 15 гадоў, неаднаразова друкаваліся на старонках раёнкі, газеты «Юный спасатель», «Лесной газеты» і часопіса «Родная прырода». Удзельнікі гуртка — пераможцы конкурсу «Напішы пісьмо салдату» — нават мелі сустрэчу з міністрам абароны. Гурток не толькі вядзе вялікую экалагічную і краязнаўчую работу, яго ўдзельнікі, як бачым, яшчэ і вершы пішуць.***

## ВОСЕНЬ ЗАВІТАЛА Ў МОЙ САДОЧАК…

Восень завітала ў мой садочак…
Ну, а мне прыбавіўся гадочак.
Дом чацвёрты мой.
Вы, можа, чулі?
Я заходжу ў госці да бабулі.
А бабуля дранікаў згатуе,
Дранікамі ўнука пачастуе.
Я за гэта ёй дапамагаю:
У садочку яблыкі збіраю.

***Раман КІСЯЛЁЎ, 6 клас***



*Чалавек марнуе на сняданкі, абеды і вячэры каля пяці гадоў жыцця і з'ядае за гэты час каля 27 тон ежы. Як сем дарослых сланоў!*

## МОЙ ПЕТРЫКАЎ

Гэты горад любімы:
Тут жывём я і ты!
Летам ён ў зеляніне,
Восенню — залаты.

А які ж ён, мой горад,
Прыгажэнькі вясной!
І чароўна-бялюткі
Зімняй снежнай парой.

Тут сябры і знаёмыя,
Тут мой дом і сям'я.
Гэты горад любімы:
Тут жывём ты і я!

***Дар'я НЕСЦЯРЧУК, 10 клас***

## МАЯ ВУЛАЧКА

Іду няспешнаю хадою,
Сяброўкі побач чарадою.
Смяюцца, гойсаюць, спяваюць,
Дарослых мінакоў вітаюць.
Тут летам кветачак нямала —
Сама іх з мамаю саджала.
Трынаццаць год жыву я тут…
І гэта мой любімы кут!

***Ліза БАНЕЦКАЯ, 7 клас***

## ЗІМОВАЕ

Не так улетку як зімою,
Зімой спаткаюся з тугою.
Дзень хмуры, шэры, нават змрочны
І доўгія бясконца ночы…
Ля грубкі сяду на прыступкі,
Прыціснуся да цёплай грубкі.
Тут сябе ўтульна адчуваю
І непрыкметна засынаю…

## ЛЕТА



Лета…
Зранку сонца прыпякае.
Побач з домам
Рэчка працякае.
Лета…
Зранку сонца прыпякае.
Тая рэчка
Так мяне чакае!
Лета…
Зранку сонца прыпякае.
Лета…
Што так хутка ты ўцякаеш?

***Дар'я ГАДАЕВА, 8 клас***

## СНЕЖАНЬСКАЕ



Самоту прыносіць
Снежаньскі дзень:
Зранку — шэрань,
Увечар — цень.
Бабуля ў крэсле
Шкарпэткі вяжа…
А пакуль звяжа —
Казку раскажа.
Дні — карацелькі,
Поўныя змроку ночы:
Гэта снежань
Да Новага года крочыць…

***Алена ЗАНКЕВІЧ, 8 клас***

*У Дурамара з казкі «Залаты ключык» існаваў рэальны прататып — доктар Жак Булемард, які жыў у Маскве і прапагандаваў лячэнне п'яўкамі. Мясцовыя дзеці празвалі яго Дурамарам, а потым Аляксей Талстой узяў яго ў сваю казку.*

# Як ствараць герояў



*Мастачка Аліса МАТАВІЛАВА*

У чым галоўная розніца між аўтарам і чытачом у дачыненні да герояў твора? Для аўтара героі — навідавоку, блізкія, зразумелыя. Ён іх стварыў. Яны для яго — жывыя, асаблівыя. Зразумелыя. А для чытача? Цалкам незнаёмыя істоты!

Галоўная задача аўтара — так пазнаёміць чытачоў са сваімі героямі, каб яны сталі зразумелымі і жывымі для ўсіх.

О, гэта вельмі няпроста нават для самага слыннага аўтара. Бо герой (як правіла) — носьбіт думак, ідэй. Праз героя і яго дзеянні аўтар даносіць да чытача сваё стаўленне да свету.

Што мы бачым найчасцей у першых апавяданнях аўтараў? Калі гераіня дзяўчына, то яна прыгожая ды разумная. Калі юнак — рашучы, смелы, дасціпны. Калі мама — клапатлівая і добрая, стары чалавек — мудры, разважлівы… Але хіба герой з такімі рысамі можа стаць запамінальным? Што ж рабіць?

Давай на момант успомнім свой блізкі свет. Маці ж не раз пыталася: якія сябры ў класе? Як ты іх апісваў, каб яна дакладна зразумела? Знаходзіў кароткія і трапныя характарыстыкі. Памятаеш? «Такая акуратыстка!» — пра адну сяброўку, «Ох і задавака!» — пра аднаго хлопчыка, «Маўчун» — яшчэ пра аднаго, «Жмінда» — пра некага іншага. Бачыш, адшукаў пэўныя якасці, рысы характару, галоўныя для цябе на гэты момант. І ў творы неабходна сваім героям надаваць яркія, запамінальныя рысы.

Канешне, няпроста «ажывіць» героя, тым больш — у апавяданні. Ты вунь колькі гадоў быў знаёмы з суседскім хлопчыкам, пакуль разгледзеў у ім асобу са сваім характарам. А тут — некалькі старонак тэксту… Як уціснуць усё?

Так, я цябе разумею. Таму пойдзем на невялікую хітрасць. Зрэшты, гэта і не хітрасць, а толькі асаблівасць мастацтва. У папярэднім нумары «Бярозкі» мы дамовіліся, што апавяданне — гэта кароткае, але вельмі насычанае, змястоўнае апісанне таго, як пад уплывам знешніх фактараў мяняецца

светапогляд чалавека ці сам чалавек. Іншымі словамі, гэта канцэнтрацыя думак і перажыванняў. І пісьменнікі скарыстоўваюць такі прыём: яны ствараюць герояў з вельмі выразнымі характарамі. У жыцці такіх, можа, і не сустрэнеш. Але тут, каб найбольш запамінальным быў пэўны герой, аўтар надзяляе яго такімі рысамі характару, якія найбольш адпавядаюць гэтаму светапогляду. Моцнымі, нават занадта, трошкі перабольшанымі. Не сціплаваты, а ве-е-ельмі сціплы, не проста маўчун — амаль баязлівец. Не задавака, а самазакаханы. Нарцыс! З грэблівасцю да іншых. Не проста справядлівы — адважны змагар за праўду!

А знешнасць? Пра яе ніяк нельга забываць! Тым больш, што знешнасць бывае падмуркам для характару. Дужы, рослы хлопец можа быць хуліганам. А вось прыгажун-выдатнік у модным адзенні — такі яшчэ як можа стаць задавакам! Дзяўчынка невысокага росту, з невыразным рабаціністым тварам — сама сціпласць і няўпэўненасць… Безумоўна, у жыцці ўсё можа быць і наадварот, але трэба абавязкова скарыстоўваць звязку «знешнасць — характар» у стварэнні персанажаў. Гэта дапамагае чытачу ўбачыць іх, запомніць і сачыць за імі.

Ствараючы героя, аўтар павінен, што называецца, прадумаць яго цалкам. Вось пішаш ты пра хлопчыка, які, да прыкладу, знайшоў кашалёк бабулькі-бамжыхі з папярэдняга майго артыкула. І вось што неабходна найперш: ты павінен прыдумаць гэтага хлопчыка так, каб ажно бачыць яго! Які ён ростам? Дужы ці не? Якія ў яго твар, прычоска, вочы; як рухаецца, размаўляе, у што апрануты, ці носіць акуляры? Больш за тое, дзе ён жыве — у доме ці ў кватэры, як сябруе з аднакласнікамі, як вучыцца, якую музыку любіць, чым захапляецца.

Маленькі прафесійны сакрэт: на кожнага свайго героя такую вось «легенду» — гісторыю жыцця — трэба скласці і запісаць на асобным аркушы. Магчыма, і не спатрэбяцца табе ўсе дадзеныя з гэтага спіса, затое ты ніколі нічога не пераблытаеш, і не атрымаецца ў цябе, што твой герой паклаў мабільнік у заднюю кішэню джынсаў, а дастаў з нагруднай кішэні стыльнага касцюма. Павер, такія «ляпы» часам у творах сустрэнеш: на першай старонцы дзяўчына мые і расчэсвае доўгія валасы, а на трэцяй хлопец захапляецца яе стыльнай кароткай фрызурай.

Падсумуем. Кожны герой твора — гэта жывы чалавек, які дыхае, хвалюецца, адчувае, есць, п'е, спрачаецца і цалуецца. Кожны валодае характарам, у якім ёсць выразныя, запамінальныя рысы, а знешнасць мае адрозную ад іншых герояў, з кідкімі элементамі.

Апошняе, пра знешнасць героя аўтар кажа чытачу сам, а пра ўнутраныя якасці наўпрост пісаць не трэба. Гэтыя якасці герой паказвае праз учынкі і выказванні. Тут аўтару трэба быць паслядоўным, каб на працягу ўсяго твора герой заставаўся такім, якім быў задуманы. І вось калі ўчынак за учынкам, слова за словам персанаж раскрывае свой унутраны свет, светапогляд, тады кажуць: характар раскрыты!

Здаецца, усё на сёння. Ага, табе хочацца спытацца: як прымусіць герояў размаўляць так, каб іх запомнілі, каб чытачы не ўпікалі, што размовы «мёртвыя»? Гэта асобная і надзвычай складаная тэма. Мы пазнаёмімся з ёй наступным разам.

***Дзядзька Кузьма***

# Назіральнасць і бабуліна гарышча



Згодна з азначэннем сайта slounik.org, назіральнасць — гэта здольнасць бачыць, заўважаць факты, з'явы, якіх не бачаць, не заўважаюць іншыя. У гэтым сэнсе назіральнасць — адзін з найважнейшых інструментаў літаратара. Без яго пісьменнік ніколі не дасягне поспеху.

Чалавек мусіць разбірацца ў тым, пра што піша. Не абавязкова быць адмыслоўцам у нейкай тэме, але быць абазнаным — давядзецца. Калі пішаш гістарычны твор, то павінен цікавіцца гісторыяй, ці не так? Калі дэтэктывы — несумненна, знаёмішся з найлепшымі ўзорамі ў гэтым жанры.

Дапусцім, пазнаёміўся. Узяўся за аловак ці клавіятуру — і тут паўстае праблема: дзе ўзяць нетрывіяльныя апісанні герояў, месцаў дзеяння, падзей, працэсаў і надвор'я. Тут і дапаможа назіральнасць! Свет вакол — бясплатная крыніца інфармацыі, з якой можна чэрпаць усё. Рухі, пахі, дотыкі, колер спадніцы, адценні ўсмешкі — усё можна смела змалёўваць з цалкам рэальных людзей, кампанаваць-камбінаваць — і атрымліваць супергерояў ці мегапрыгажунек. Галоўнае, каб выходзіла праўдзіва.

У доказ сваёй думкі прывяду словы Джэймса Дж. Кілпатрыка з бюлетэня Амерыканскага таварыства рэдактараў газет: «Трэба заўважыць, што калі чалавек хоча добра пісаць, ён павінен стварыць нешта падобнае на бабуліна гарышча. Ён павінен рупліва збіраць словы, фразы, вобразы, колеры, пахі, гукі, рухі, якасці; ён павінен культываваць у сабе асаблівае ўспрыманне звычайных рэчаў: спушчанай шыны, перагарэлай лямпачкі, парванага шнурка, згубленай паперкі, апошняга ўдару лёсу, млоснага пачуцця чалавека, які канчаткова страчвае сілы… Мы збіраем і захоўваем усе гэтыя ўрыўкі, фрагменты і драбніцы, ведаючы, што калі-небудзь яны нам спатрэбяцца».

Думаеш, Якуб Колас апісаў бы так прыгожа прыроду, калі б не жыў пасярод яе і не назіраў? Максім Танк не напісаў бы сваіх палымяных вершаў, калі б не меў досведу рэвалюцыйнай барацьбы. Уладзімір Караткевіч не стварыў бы сваіх шэдэўраў, калі б не захапляўся беларускай гісторыяй. Джон Толкіен не напісаў бы «Уладара пярсцёнкаў» і «Хобіта», калі б не цікавіўся міфалогіяй і мовамі скандынаўскіх народаў.

Чым больш усяго новага ты будзеш адкрываць у гэтым вялізным свеце, тым лепей будзе для цябе і тваёй творчасці. Заўжды знойдзецца тэма, пра якую табе захочацца каму-небудзь распавесці, гэтаксама, як знойдзецца той, хто з ахвотай паслухае. Галоўнае, каб было пра што сказаць!

***Канстанцін КАСЯК***

# Партал




Мастачка Юлія УСАВА

Вітаю цябе, дружа!

Ты ведаеш, што здані не адбіваюцца ў люстэрках. Чаму? Сярэднявечны алхімік і ўрач Парацэльс меркаваў, што люстэрка — партал паміж светамі: містычным і рэальным. Нашы продкі былі ўпэўненыя, што люстэркі ўмеюць запамінаць энергію, у тым ліку і негатыўную. Раней варажылі, паставіўшы паміж запаленымі свечкамі два люстэркі — адно насупраць другога, і ўглядаліся ў бясконцы калідор, імкнучыся ўбачыць у ім сваю будучыню. Пры гэтым важна было папярэдне завесіць абразы, а нацельны крыжык зняць і пакласці пад пятку. Людзі верылі, што люстэрка падаравана чалавеку самім Уладальнікам Цемры!

Цар Іван Жахлівы які да смерці баяўся ўсялякіх нагавораў, загадаў, каб люстэркі для яго жонкі выраблялі-ся сляпымі майстрамі! Нават «прасветленая Еўропа» пагаджалася з такімі прымхамі. У вокны ўстаўляліся люстраныя шкельцы, каб адбіць дрэнную энергію «нядобрых» будынкаў-суседзяў: шпіталяў, турмаў, прытулкаў, а таксама «адвесці вока». Касцюмчыкі маленькіх дзетак часцяком абшываліся маленечкімі люстэркамі, каб абараніць ад вока зайздроснікаў.

Нават у ІІІ тысячагоддзі людзі працягваюць асцярожніцаць з гэтым прадметам: пабітае люстэрка лічыцца кепскай прыкметай — раз, вярнуўшыся па забытую рэч, аглядаюць сваё адлюстраванне — два, завешваюць люстэркі ў доме з нябожчыкам — тры…

Але ці так ужо гэта «смешна» або «ненавукова», як можа падацца на першы погляд? Сучасныя навукоўцы перакананы: люстэрка сапраўды валодае нябачным «полем». Паспрабуй узяць пульт ад тэлевізара і накіраваць сігнал не прама, а адбіўшы яго ад люстэрка. Што адбудзецца? Тэлевізар усё роўна ўключыцца! І праграмы будуць пераключацца. Мне гэта падаецца дзіўным. Калі люстэрка можа адбіваць промні ад пульта, дык чаму б яму не адбіваць і тонкія энергіі — пачуцці і эмоцыі? Калі мы глядзім у люстэрка, вышукваючы ў сабе недахопы, незадаволена надзімаемся, яно вяртае нам дрэнны настрой. Магчыма, пасля, калі мы на яго ўжо забудземся! Таму не глядзіся ў люстэрка без добрай усмешкі самому сабе. Вось убачыш, гэта ўсмешка падтрымае цябе, і не раз!

Я не стаміў цябе, дружа? У мяне ёсць просьба: давай пагуляем! Ты будзеш «люстэркам»: намалюеш мой партрэт так, як уяўляеш мяне сам. Павер, мне будзе вельмі прыемна!

***Твой бяссонны Аркаша***

# У Купальскую ноч

Назва свята — «***Купалле***» — паходзіць ад старажытнага індаеўрапейскага кораня kup — *кіпець* або *палымяна прагнуць*, а таксама суадносіцца са словамі *купацца* і *збірацца ў купу* (разам).



## НА КУПАЛЛЕ ДЗЯЎЧАТЫ:

- пускаюць вянкі па вадзе: куды паплыве — у той бок замуж ісці.
- рвуць нераспушчаныя кветкі і ўтыркаюць у шчыліны ў хаце; калі за ноч распусцяцца — дзяўчына выйдзе замуж ці спраўдзіцца іншае загаданае жаданне; пасля вайны жанчыны так варажылі, ці вернуцца дадому іх мужы.



Для купальскага вогнішча ўсёй вёскай зносілі старыя рэчы. Паселішчы маглі спаборнічаць між сабой — у каго агонь большы ці даўжэй гарыць. Рэшткі гэтага ўяўлення захаваліся і сёння, калі ў купальскае вогнішча ідуць старыя шыны, якія добра і доўга гараць.

Купальскае вогнішча распальвалі жывым агнём: цёрлі адна аб адну галінкі. Сярод вогнішча мог знаходзіцца шост з колам наверсе, лялька. Ляльку рабілі з саломы, у жаночай іпастасі, маглі насіць па вёсцы, тапіць — замест таго, каб спальваць.

Калі вогнішча прагарае, шост з колам падае. Лічыцца, у чый бок «пакажа» кола, у таго да наступнага Купалля здарыцца ў жыцці нешта істотнае. Потым пачынаюцца скокі праз вогнішча. Калі пара скача разам, то глядзяць, ці не разнялі яны рук: калі не, то, мабыць, будуць разам.

## НЕАБХОДНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ КУПАЛЛЯ:



- вялікае вогнішча, якое складалі і палілі ўсёй вёскай. Сустракаюцца звесткі, што замест вогнішча выкарыстоўвалі надраную горку крапівы, што сваімі ўласцівасцямі (джаліць, пячэ) сімвалічна замяняла агонь;
- купанне ў рацэ ці возеры. Святкаваць маглі не толькі ля вады, але і на ўзвышшы, на скрыжаванні дарог — месцах, якія ў народнай свядомасці валодалі таямнічай сілай;
- маніпуляцыі з кветкамі (плялі вяночкі, свяцілі, сушылі для лекавання на працягу года). У момант росквіту плодных сіл зямлі набывалі моц зёлкі, якія збіралі ў гэты час усе, ад малога да старога. На працягу года купальскія зёлкі выкарыстоўвалі ад розных няшчасцяў і хвароб.

Людзі меркавалі, што з Купалля варта пачынаць нарыхтоўваць траву на зіму жывёле. Самыя дбайныя гаспадары рабілі некалькі пракосаў ужо ўночы.



Узыходзячы пасля Купальскай ночы, Сонца быццам «грае». Кажуць, што «гранне», «купанне» Сонца бачаць толькі шчаслівыя людзі. Апавядаюць, што яно некалькі разоў паказваецца з-за лініі гарызонту і хаваецца назад, распадаецца на некалькі вогненных колаў і злучаецца, вакол яго стваранецца вясёлкавае ззянне, яно пераліваецца рознымі колерамі…

## ВАРАЖБА

Чый вянок хутчэй згарыць на купальскім вогнішчы, тая дзяўчына хутчэй выйдзе замуж. Хлопец выхоплівае з агню вянок той дзяўчыны, якая падабаецца, спадзяючыся, што яна яго пакахае.

Увечары трэба сарваць зубамі трыпутнік і легчы з ім спаць, ні з кім не гаворачы. Прысніцца той, з кім ажэнішся.



Узяць пяску з перакрыжавання дарог, пакласці пад падушку — прысніцца нешта істотнае.

У Купальскую ноч выходзяць на паверхню закапаныя скарбы, «купаюцца і сушацца». Іх ахоўвае нячыстая сіла, адводзіць чалавеку вочы, таму завалодаць багаццем, не маючы папараць-кветкі, складана. Ёсць паданне, што аднаму селяніну папараць-кветка трапіла ў лапаць, і ён стаў бачыць месцы, дзе закапаны скарбы. Але тут з'явілася вядзьмарка і прапанавала яму новыя боты. Для селяніна, які ўсё жыццё прахадзіў у лапцях, боты былі вельмі дарагім абуткам, і прапанова падалася яму выгоднай. Не ведаючы, што ў лапцях у яго папараць-кветка, селянін аддаў стары абутак вядзьмарцы і так упусціў сваё шчасце.

У Купальскую ноч маглі адбывацца розныя здарэнні. Найбольш вядомым застаецца паданне аб папараць-кветцы, якая цвіце толькі ў Купальскую ноч, да таго ж адно імгненне. Хто яе сарве, будзе мець усё, што пажадае, бачыць скарбы, схаваныя ў зямлі, можа стаць нябачным, адамкнуць і замкнуць любы замок.

Папараць-кветку ахоўвае нячыстая сіла, таму звычайны чалавек, шукаючы яе, можа памерці са страху. Затое збор кветак папараці па сілах Купальскаму дзядку, які кладзе іх у кошык. Калі сустрэнеш дзядка, рассцялі перад ім белы абрус, і ён кіне туды адну кветку. Тады трэба разрэзаць скуру на правай далоні і схаваць кветку туды, каб нячысцік не дастаў.

Бываюць са скрабамі здарэнні. Аднаму мужыку ў Купальскую ноч прыснілася, што ён знойдзе грошы на мосце. Ранкам ён пайшоў іх шукаць, але не знайшоў. Каля таго маста жыў млынар, мужык зайшоў да яго ў госці і ўсё распавёў. Млынар адказаў, што яму таксама сніўся сон, быццам бы ў гэтага мужыка схаваны скарб пад печчу. Тады мужык вярнуўся дадому і знайшоў грошы.

З Купаллем звязана шмат народных міфапаэтычных уяўленняў, некаторыя з якіх, нягледзячы на трансфармацыю на працягу стагоддзяў, жывыя і зараз.

# У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ АСАБЛІВА НЕБЯСПЕЧНЫ РАЗГУЛ ВЯДЗЬМАРАК

Зрэдку сустракаюцца згадкі пра «арэхава дрэва», што цвіце адначасова з папарацццю. Трэба сарваць арэхаву кветку і ісці туды, куды яна будзе нахіляцца, каб знайсці скарб.

Вядзьмаркі спрабуюць адабраць малако ў кароў: збіраюць на чужых палях расу. Малако робіцца вадкім ці памяншаецца надой. Тлумачачы сувязь між з'явамі, сяляне казалі, што раса — гэта «сок зямлі», і на Купалле яна «малочная». Вядзьмаркі на Купалле могуць пашкодзіць не толькі каровам, але і жыту: зрабіць залом ці сарваць некалькі каласкоў — гэта пагражае неўраджаем. Таму пільныя гаспадары не спалі ўсю ноч, ахоўваючы свае палеткі ад вядзьмарак. Дадатковым сродкам засцярогі было ўтыркванне зёлак (асабліва крапівы і палыну) пад страху хлява.



Лічылася, што коней у Купальскую ноч могуць «пазычыць» вядзьмаркі для паездкі на штогадовы купальскі шабаш. Ён быццам бы праходзіў на Лысай гары ў Кіеве. Таму коней не пакідалі на начны выпас, заганялі ў стойлы. Але і там вядзьмаркі маглі дабрацца да сваіх ахвяр, таму над уваходам у хлеў ставілі свечку, асвечаную на Грамніцы ці ў Чысты чацвер (перад Вялікаднем). Калі ж коней пакідалі на полі, то прасілі пастухоў не раскладаць агню, каб на яго не зляталіся вядзьмаркі. Таксама ў Купальскую ноч асцерагаліся пераганяць жывёлу праз межы між палямі розных вёсак: лічылася, што мяжа — гэта небяспечнае месца, дзе можна лёгка сустрэць ведзьму.



Калі не пашчасціла сарваць чароўныя кветкі, можна на досвітку выйсці ў поле, легчы на траву і паспрабаваць згледзець, ці не выходзіць дзе з зямлі пара слупом: у гэтым месцы закапаны скарб.

***Алена ЛЯШКЕВІЧ***

# Прыехаў — спадабалася — застаўся

***Пра Ігара Мікалаевіча Чэба мне казалі, што ён хварэе «Зубронкам». Дазвольце пацвердзіць: так і ёсць. Ён прыязджае сюды штолета і пра асноўны свой занятак заўважае: «Я знаходжуся ў Мінску, дзе чакаю лета і “Зубронка”».***

**— Як і калі вы зразумелі, што хочаце быць важатым?**

— Зацікаўленасць важацкай дзейнасцю і дзіцячым лагерам адпачынку з'явілася, калі вучыўся ў 8-м класе і ездзіў адпачываць у лагер «Акіян» ва Уладзівастоку. Мне пасля вельмі захацелася вярнуцца ў тую атмасферу… Разумеў, што ва Уладзівасток трапіць не атрымаецца, таму ў 1992 годзе вырашыў падпрацаваць важатым дзе-небудзь у нас. Прапанавалі «Зубронак». Паехаў — спадабалася — застаўся. Калі пачаў працаваць, зразумеў, што трапіў менавіта ў тую атмасферу, якую так доўга шукаў. Адпрацаваўшы першую змену, вырашыў, што гэта — маё. Вярнуўся ў Мінск, напісаў і здаў дыплом у інстытуце, у якім на той момант вучыўся, і вярнуўся ў «Зубронак».

**— Напэўна, было шмат складанасцей…**

— Так, іх у працы важатага нямала. Усе дзеці розныя і да кожнага патрэбен асаблівы падыход — раз. Дакументацыя, якую трэба штодзённа весці, — два. Але гэта не страшна, калі табе падабаецца тое, што ты робіш, і калі разумееш, што гэта падабаецца дзецям, з якімі працуеш. Першым сур'ёзным выпрабаваннем для мяне быў атрад з трох дзясяткаў чалавек узростам 9—10 гадоў з інтэрната. Але, здаецца, справіўся.

**— У вас, напэўна, ёсць якія-небудзь фішкі…**

— Не раскажу, сакрэт! А калі сур'ёзна, то галоўная фішка — каб праца падабалася самому. Каб дзеці заўсёды разумелі, што ты прыйшоў на працу з настроем, а не таму, што так трэба. Напэўна, мая фішка ў тым, што для мяне «Зубронак» — не праца. Гэта маё жыццё.

**— Раскажыце пра абавязковыя традыцыі, у якіх вы ўдзельнічаеце.**

— Вячэрнія крычалкі перад адбоем і песня. І ўжо традыцыйнымі сталі сустрэчы ў Мінску, на якія прыязджаюць дзеці з іншых гарадоў і нават краін. Якія дзеці зараз найбольш прыязджаюць у «Зубронак»? У большасці, канешне, актыўныя, лідары, але часам бываюць вельмі спакойныя. Калі занадта ціхія і не адразу могуць адаптавацца ў цэнтры, у першую чаргу стараюся паразмаўляць з імі ў спакойнай і душэўнай атмасферы. Прашу тых, хто не ўпершыню ў «Зубронку», каб яны дапамаглі ў адаптацыі. Што б я ні рабіў, усё роўна самі дзеці могуць зрабіць нашмат больш для таго, хто прыехаў упершыню. Ну і, натуральна, намагаюся актыўна камунікаваць з бацькамі.

**— Як пабудаваць адносіны з дзецьмі, з якімі вы кардынальна не сыходзіцеся?**

— Не ведаю чаму, можа, мне пашанцавала, але з дзецьмі, з якімі ў нас кардынальна розныя погляды, я не сутракаўся. Ідэальных важатых, як і ідэальных людзей увогуле няма. А ідэальны атрад — гэта, у першую чаргу, дружны атрад дзяцей, якія любяць «Зубронак» і прыехалі сюды не таму, што іх адправілі бацькі, а таму, што яны самі вельмі захацелі. Канешне, я трымаю дыстанцыю паміж сабой і дзецьмі. Усё ж яны павінны разумець, што я не адзін з іх, павінны паважаць, выконваць мае просьбы і патрабаванні. Іншая справа, што яны з часам вырастаюць з дзяцей і становяцца паўнапраўнымі сябрамі. У мяне шмат «былых дзяцей», з якімі мы цяпер у вельмі добрых стасунках. Некаторыя з іх працуюць у «Зубронку» важатымі.

**— А як утрымаць мяжу паміж сяброўствам і панібрацтвам?**

— Складана адказаць. Напэўна, я проста адчуваю ў нейкі момант, што дзеці падыходзяць заблізка, і спыняю іх. Але калі заслужыць у дзяцей менавіта павагу, а не танны аўтарытэт за ўседазволенасць, то яны самі не пераходзяць гэту мяжу.

**— Што змянілася ў «Зубронку» за той час, што вы яго ведаеце?**

— Калі я пачынаў працаваць, у дзіцячых карпусах не было нават душа — карысталіся душам у басейне. Дзеці таксама, канешне, змяніліся. У першыя дні не могуць без тэлефонаў і інтэрнэту. Але гэта толькі першыя дні, а потым і самі не хочуць ні інтэрнэту, ні тэлефона.

**— Вы прыязджаеце ў «Зубронак» толькі на лета. А чым займаецеся акрамя яго?**

— Жыву і працую ў Мінску, але не варта распавядаць пра падрабязнасці. Правільней нават казаць, што я знаходжуся ў Мінску, дзе чакаю лета і «Зубронка».

*Запісала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

***Пасля інтэрв'ю з такім незвычайным чалавекам (папярэдняя рубрыка) немагчыма не папрасіць яго яшчэ і паказаць што-небудзь цікавае. Ігар Мікалаевіч Чэб пагадзіўся падзяліцца тым, што яму дорага і важна. Шчыра кажучы, зусім не здзіўляе, што палова з гэтага спіса — рэчы, звязаныя з «Зубронкам».***









Граматы за добрую працу ў «Зубронку» атрыманыя ў адзін дзень, але з інтэрвалам у 15 гадоў. Супадзенне.

«Сабачка Мэры. Усе называлі яе Маруся. Пражыла ў мяне 11 гадоў. Яе ўжо няма, але яна была і будзе лепшым маім сябрам і самай блізкай істотай».



«Гітару я набыў у 1988 годзе за 18 рублёў. На ёй вучыўся граць і працягваю граць да гэтага часу. Неаднойчы рамантаваў, але пакуль што працуе».

Лучший по профессии 2007

«Стужка "Лепшы ў прафесіі-2007". Яе ўручылі Пашу Пятроўскаму, які раней адпачываў у маім атрадзе, а цяпер працуе ў "Зубронку". Ён прывёз яе мне і сказаў, што яна мая. Было прыемна».



Сцяжок Ляснога дома, любімага корпуса ў «Зубронку».



«Мая машына. На ёй езджу 10 гадоў. Усе кажуць, што яна есць шмат паліва, але я ўсё роўна яе люблю».

***Падрыхтавала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

# Урок трэці
## Паравёртыш і байка без слоў


Вядучы рубрыкі Андрэй Палупанаў

Лепшыя заданні, выкананыя ў групе «Вконтакте»: «Бярозка/КінаШкола, будуць разыграны ў конкурсе на бясплатнае навучанне ў сапраўднай кінашколе! (Прапанова filmschool.by).

### СЦЭНАРЫСТУ

*Самае галоўнае* — навучыцца прыдумляць гісторыі. А каб іх было цікава чытаць або слухаць, трэба выконваць некаторыя правілы:

✓ гісторыя заўсёды мае канкрэтныя пачатак, сярэдзіну і канец;

✓ у аснове гісторыі — канфлікт, менавіта ён вядзе гісторыю, не даючы герою супакоіцца, бо канфлікт — гэта сутыкненне матывацыі героя і яго акружэння, асяроддзя, акалічнасцей;

✓ у гісторыі павінен існаваць «паравёртыш», і лепш не адзін; «паравёртыш» — гэта такі нечаканы паварот, калі адбываецца раптам нешта такое, што немагчыма было прадказаць.

*Паспрабуй самастойна прыдумаць «паравёртыш». Напішы адзін-два «паравёртышы» і выкладзі ў групу «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола, а мы праверым, ці правільна ты зразумеў матэрыял.*

### ПРАДЗЮСАРУ

*Прадзюсар* — гэта арганізатар і камунікатар. Яму лепш, чым каму іншаму ўдаецца з усімі пра ўсё дамовіцца. Тут дамо табе колькі парад:

✓ будзь упэўнены ў тым, што гаворыш, на ўсе 100 працэнтаў.

✓ паабяцай суразмоўцу асобную падзяку ў цітрах і пахвалі яго за дапамогу, бо ён зрабіў значны ўнёсак у развіццё беларускай культуры;

✓ пры сабе неабходна мець ліст ад якой-небудзь сяброўскай арганізацыі (школы, іншай навучальнай установы, прадпрыемства): просім, маўляў, дазволу на правядзенне здымак там-та і там-та з такога-та па такое-та; на жаль, ад прыватнай асобы лісты такога кшталту разглядаюць рэдка;




Мастачка Юлія УСАВА



✓ шукай спонсарскія грошы; смела прапаноўвай найлепшыя месцы для лагатыпаў спонсараў у абмен на сякія-такія выдаткі (харчаванне і транспарт, да прыкладу).

## РЭЖЫСЁРУ

Навучыся візуалізаваць абстрактна. Уяві, як бы выглядалі на экране адчай, безвыходнасць, спакой, пустата, імклівасць.

Паспрабуй запісаць інтэрв'ю з чалавекам, не перашкаджаючы яму гаварыць: няхай яго маналог ператворыцца ў ток думкі; агаворкі, паўзы, адхіленні ўвагі — вельмі важныя.

Зрабі відэасэлфі працягласцю болей за 5 хвілін, падзяліўшыся думкамі, пасля паглядзі, што атрымалася.

Зрабі аўдыязапіс з мінаком на вуліцы, і няхай гэта выглядае максімальна натуральна і нязмушана.

Выкарыстоўваць можна тэлефон: якасць запісу на дадзеным этапе не такая ўжо важная.

*Падзяліся вынікамі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.*

## АКЦЁРУ

Знайдзі таварыша, з якім будзеш займацца акцёрскім майстэрствам, бо шмат што нерэальна будзе выканаць аднаму.

Прыдумайце разам па 5 пытанняў, якія раскрываюць суразмоўцу, і правядзіце ток-шоу «Пытанне — адказ»; запішыце гэта на камеру або тэлефон і абмяркуйце.

Вывучы які-небудзь верш (або байку) і спачатку раскажы без слоў, потым са словамі, затым — проста раскажы, прапрацоўваючы дзеянні ў галаве.

*У рускай казкі пра Калабка ёсць амерыканскі аналаг. Там спяклі не Калабка, а Імбірнага чалавечка. Ён таксама ад розных звяроў уцякаў, але лісіца яго перахітрыла і з'ела.*




Запішы 5 эмоцый і падбяры да іх рэплікі; прамаўляй гэтыя рэплікі са сваімі эмоцыямі; затым зноў, затым яшчэ раз: цікава?..

Знайдзі ў інтэрнэце 5 скорагаворак, якія пададуцца табе асабліва цяжкімі для вымаўлення; вывучы іх і запішы працэс вымаўлення на камеру.

*Падзяліся вынікамі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.*

## ГУКАРЭЖЫСЁРУ

Выберы апавяданне і зрабі музычна-шумавую эксплікацыю, апісваючы, які гук прысутнічае ў той ці іншай сцэне.

Запісвай гук на здымачнай пляцоўцы, на пераагучванне спадзявайся ў апошнюю чаргу.

Ёсць выдатнае прыстасаванне ZOOM H1 (і яго мадэлі-браты) — выдатна піша асяродак/акружэнне. Папрацуй з ім у полі, лесе, на гародзе, садзе, кухні…

Знайдзі інструментальную кампазіцыю і, праслухваючы яе, запішы ўсё, што ў гэтыя хвіліны ўбачыў.

*Падзяліся вынікамі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.*

***Кіно ў Беларусі выходзіць на новы віток!***
***І яно мае ў табе патрэбу!***
***Будзь актыўным!***
***Дзяліся сваімі напрацоўкамі!***
***Удачы табе!***

## Перапынак




Святлана Сітнік

# Сяброўства без крыўды

***Яны ўзнікаюць спантанна, на роўным месцы: ты і не заўважыў, як ужо пакрыўдзіўся. Кінутая неўпапад сяброўская фраза здольна пасеяць у сэрцы самую глыбокую крыўду, што ўжо казаць пра «глабальныя» рэчы — сваркі і здрады…***

Крыўды разбіваюць сяброўства — наўпрост або спадцішка. Веру, што ты ўжо збіраў яго аскепкі. Але калі жадаеш захаваць сяброўства, тады павінен навучыцца спраўляцца з уласнымі крыўдамі. Якім чынам? Кожны раз вызваляй сваё сэрца ад крыўды пры дапамозе вось гэтага практыкавання.

## ТРЫ КРЭСЛЫ ПАСЯРОД ПАКОЯ

Спатрэбяцца тры вольныя месцы. Лепш, калі гэта будуць стулы, крэслы або табурэты, але месцы на канапе таксама падыдуць. Галоўнае, каб месцы былі раздзелены ў прасторы. Кожнае з іх трэба назваць або абазначыць лістом паперы з надпісам: «Я», «Мой сябра» («Мая сяброўка»), «Назіральнік». Хутчэй сядай на першае месца (пад назвай «Я») і асвойвай яго.

Адчуй месца свайго «Я», а затым з яго зірні на месца сябра — уяві, што ён сядзіць насупраць цябе (калі цяжка ўявіць, можна пасадзіць на гэта месца ляльку ці цацку малодшага брата). Што б ты сказаў яму? Выкажыся, выкрычыся напоўніцу! Не стрымлівай свае пачуцці і эмоцыі. Зрабі гэта літаральна, пакуль цябе ніхто (тым больш ён!) не чуе. Гэта важна зрабіць, бо крыўда — рэч злосная, яна складзена з масы непрыемных перажыванняў, якія праз пачуцці хочуць вырвацца вонкі. Лепш, калі гэта адбудзецца тут і цяпер, а не ў самы непатрэбны момант, калі, напрыклад, сябар мае патрэбу ў тваіх падтрымцы і ўвазе.

Злоба, якая ўласціва крыўдзе, нікуды не дзенецца, застанецца ўнутры цябе, калі не даць ёй выхаду. Ты і сам не заўважыш, як раптам разазлуешся на сябра без асаблівай падставы. Скажаш нешта крыўднае ў адказ, не падтрымаеш ці, наадварот, штурхануў, быццам неспецыяльна… Гэта ўсё робіць крыўда, злоба, якая прагне помсты. Навошта яна табе? Хутчэй ад яе пазбаўляйся! Уяві сябра, які сядзіць перад табою ў крэсле, і раскажы яму ўсё, што ты пра яго думаеш!

## АПРАЎДАННІ СЯБРА СУПЫНЯЦЬ БУРУ ЭМОЦЫЙ

Пасля таго як «выпусціш пару», можаш смела перасаджвацца на месца «Мой сябра». Як табе на яго месцы? Паспрабуй ужыцца ў ролю, адчуць сябе

сваім сябрам. Паглядзі вачыма сябра на тое, што паміж вамі адбылося. Як бы ты паводзіў сябе на яго месцы ў дадзенай сітуацыі? Можа быць, рабіў бы тое самае? Ці іншае? А ці мог ён іначай? Не? Ці мог? А як бы ён зараз перад табой апраўдваўся? Чым бы патлумачыў свой учынак? Мо ён добра не падумаў, перш чым адказаць табе, і нанёс душэўную рану не са злосці, неспецыяльна?

Мо ён проста не ведаў, як павесці сябе ў сварцы, і павёў сябе так, як змог? А мо калісьці ты і сам яго пакрыўдзіў, і цяпер яго злоба «вылілася» на цябе? Калі ваша дружба табе дарагая — ты знойдзеш правільныя тлумачэнні і апраўданні свайму сябру.

Можа ўзнікнуць пытанне: «А чаму я павінен рабіць гэта замест яго? Няхай сам апраўдваецца!» На жаль, нам складана дачакацца ад некага выбачэнняў, апраўданняў і ўцямных тлумачэнняў сваіх учынкаў. Чакаць ад сябра першага кроку ў той час як ён, напэўна, чакае таго самага ад цябе… Можна і не дачакацца. Але выканаўшы гэта практыкаванне (паўтараць пры неабходнасці), ты робіш першы крок насустрач добрым стасункам і, магчыма, ратуеш іх ад разбурэння.

## НАЗІРАЛЬНІК ГЛЯДЗІЦЬ ЗБОКУ

Час перасесці на трэцяе месца — «Назіральнік». Назіральнік — гэта чалавек, які не мае дачынення да сітуацыі, а пазірае на яе збоку. У яго няма пачуццяў і эмоцый, якія ўзнікаюць у цябе і твайго сябра, ёсць толькі логіка, якая дапамагае яму рабіць свае «пабочныя» высновы.

Погляд з боку назіральніка — гэта погляд адначасова на сябе, сябра і тое, што паміж вамі адбылося. Без прыхарошвання, злобы, жалю да сябе і асабістых сімпатый. Гэта «сухі», лагічны аналіз сітуацыі, які дазваляе зрабіць правільныя высновы, каб яна больш не паўтарылася, а калі і паўторыцца, дык хаця б з найменшымі стратамі для абодвух бакоў.

Прааналізуй сітуацыю: хто мае рацыю і хто вінаваты? Мо і той, хто сядзеў на месцы «Я», паводзіў сябе, мякка кажучы, «не вельмі» і сам нарваўся на зневажанне? Ці мог лёгка папярэдзіць спрэчку, але нічога для гэтага не зрабіў? А ці была ў яго важкая прычына ТАК крыўдзіцца? Мо прасцей было б махнуць на знявагу рукою — як на няўдалы камплімент, або прапусціць скрозь вушы — як недарэчны жарт? Як яшчэ можна было б сябе павесці?

Паглядзі з пазіцыі назіральніка на сябра. Мо і яму зараз дрэнна? Мо і вельмі дрэнна? Ён даўно шкадуе пра зробленае, але не ведае, што рабіць далей, каб вярнуць сяброўства. А мо ён і не здагадваецца, што той, хто сядзеў толькі што на месцы «Я», можа на яго злаваць, крыўдаваць?

Уяві, што ты, як назіральнік, хочаш памірыць гэтых сяброў. Што б ты параіў ім? Якое рашэнне падказала б «Я» (бо яму ж рабіць першы крок насустрач), каб вярнуць былыя стасункі? Нядрэнна было б запісаць свае думкі на паперы і затым іх рэалізаваць, — гэта будуць самыя правільныя рашэнні, якія дапамогуць табе захаваць сяброўства.

Часцей за ўсё крыўды — гэта толькі дробныя непаразуменні, якія здараюцца паміж людзьмі. Памятай пра гэта, не крыўдуй дарэмна, а калі раптам крыўда, як стрэмка, засядзе ў тваім сэрцы — тэрмінова пазбаўляйся ад яе. Ты ўжо ведаеш, як.




# Бясконцы красавік

*Рэпартаж*

А вам калі-небудзь здавалася, што некаторыя песні маюць пах? Слухаеш мелодыю — і адчуваеш у паветры штосьці салодкае і прыемнае. У мяне гэтак адбываецца з песнямі Паліны Рэспублікі. Сапраўднае імя — Паліна Паланейчык. Ёй толькі 21 год, а яна ўжо паспела скарыць сэрцы многіх. На мой погляд, творчасць Паліны сапраўды незвычайная, бо нешта падобнае сустракаеш нячаста. Нядаўна Паліна Рэспубліка выпусціла першы альбом з пяшчотнай назвай — «Бясконцы красавік». На прэзентацыі пашчасціла пабыць і мне.

Канцэрт праходзіў у фотастудыі Studio 67. Крэслаў там не было, уся зала ператварылася ў вялікі танцпляц. Мяне вельмі ўразіла афармленне сцэны — яно, безумоўна, адпавядала назве альбома. Букеты цюльпанаў і галінкі бэзу дадавалі атмасферы пяшчоты, адчуваўся сапраўдны пах вясны. Пасярэдзіне сцэны «вырасла» дрэўца. Сярод яго зялёнага лісця можна было прыкмеціць маленькія электрычныя лямпачкі, але ўсё роўна здавалася, што ты апынуўся ў вясновым садзе.

Вось выйшла і сама Паліна. Узяла гітару, села ў крэсла пад дрэўцам. У жоўтай сукенцы яна была сонечнай. Павіталася і падарыла гледачам сваю цёплую ўсмешку.

Канцэрт пачаўся песняй з назвай «Рассвет». Мы быццам і сапраўды сустракалі світанне, седзячы побач з Палінай у садзе. Пайшлі наступныя песні, у перапынках паміж імі спявачка звярталася да гледачоў, шмат усміхалася, жартавала, была адкрытай і шчырай. Часам ствaралася ўражанне, што праграма канцэрта не рыхтавалася загадзя і Паліна вось толькі зараз яе прыдумвае.

Выканаўшы некалькі песень, Паліна абвясціла дзесяціхвілінны перапынак. Пасля зноў выйшла, зноў павіталася і зноў зайграла «Рассвет». Гледачы стаялі ў здзіўленні: чаму ўсё паўтараецца? І толькі скончыўшы пець, дзяўчына растлумачыла: многія людзі спазніліся на канцэрт, і яна вырашыла зрабіць так, каб у іх склалася ўражанне, быццам пачатак яны не прапусцілі. Шыкоўны ход!

Другая частка канцэрта значна адрознівалася ад першай. Калі спачатку былі песні пяшчотныя і павольныя, то цяпер — больш рытмічныя, пад якія хочацца танцаваць. На сцэне з'явіліся новыя інструменты: барабаны і бас-гітара. Музыкі гралі ад душы, аддаваліся кампазіцыям цалкам. Апладысменты сталі гучнейшымі. Гэта было неверагодна! Дзеці, якія прыйшлі на канцэрт разам з бацькамі, скакалі на краі сцэны, атрымліваючы асалоду ад вясёлых мелодый. Людзі падпявалі, усміхаліся…

Канцэрт скончыўся, напэўна, самай цёплай і сонечнай песняй з рэпертуару Паліны — «Лета». І, шчыра кажучы, «надвор'е» ў зале было як у лепшы дзень гэтай цудоўнай пары года!

Так, некаторыя песні маюць пах. Цяпер для мяне песні Паліны Рэспублікі пахнуць не толькі бясконцым красавіком, але і яркімі ўспамінамі пра канцэрт у «квітнеючым садзе».

***Ганна ЯЎСЕЙЧЫК,***
***11 клас, гімназія № 61, Мінск***




Подпіс рэдактара




# Бяжыць пошта!

*Паведамленне*

Я хачу расказаць пра незвычайнае хобі — посткросінг. Дзякуючы яму людзі з розных куткоў Зямлі могуць абменьвацца паштоўкамі, расказваць пра сябе і свае навіны. Калі ты творчы, адкрыты і актыўны чалавек, то гэты занятак прыйдзецца табе па душы, таму што ён дорыць масу станоўчых эмоцый і жаданне рабіць людзям, няхай і незнаёмым, прыемныя падарункі.

Але ўсё пачынаецца з сайта Postcrossing.com, на якім трэба зарэгістравацца і напісаць пра сябе. Сайт патрэбен толькі для таго, каб працэс абмену паштоўкамі праходзіў сумленна і хутка. Разабрацца, што да чаго, не так складана. Мова посткросінгу — англійская. Каля профілю — набор розных функцый. Адна з іх — «адправіць паштоўку». Выбіраеш яе — і сервер выдае пяць адрасоў людзей з розных краін, а да кожнага адраса прыкладаецца ID-нумар. Трэба

ўказаць на паштоўцы і тое, і другое, бо як толькі яна дойдзе да адрасата, ён зарэгіструе тваю картку менавіта дзякуючы ID-нумару.

Перш чым выбіраць паштоўкі для атрымальнікаў, варта прачытаць пра іх захапленні. Часта ўзнікаюць цяжкасці ў напісанні паслання. Гэта можа быць пажаданне, або невялікі аповед пра сваё жыццё, або ўрывак з любімага верша... Увогуле, варыянтаў шмат. Тут ужо справа фантазіі.

Як толькі пасланні дасягнуць мэты, твой адрас атрымаюць пяць чалавек, якія будуць выбіраць для цябе паштоўкі. Гэта неапісальнае пачуццё — даставаць са сваёй паштовай скрыні картку, падпісаную ў Францыі, Германіі ці Нідэрландах...

Абавязкова паспрабуй сябе ў посткросінгу — і на адну радасць у тваім жыцці стане больш.

***

Па статыстыцы, карыстальнікі посткросінгу з Беларусі актывізаваліся ў 2013 годзе і адразу ж трапілі на шосты радок у рэйтынгу па колькасці адпраўленых паштовак. Чаго ты чакаеш? Далучайся!




Подпіс рэдактара

________________

***Ксенія САСНІНА,***
***11 клас, ліцэй № 2, Мінск***

# Самы летні наш букет

*Нататка*

Дзень выдаўся няпростым: зранку Дыяна схадзіла ў краму. Потым спякла любімы мамін лімоннік. Замарынавала курыныя крыльцы. Прыбралася ў кватэры. Задумалася: чым яшчэ здзівіць імяніннiцу? Падарунак, сімпатычную падушку-думку, яна сшыла раней. Святочны стол будзе накрыты вечарам. Хіба што кветкі…

Зазірнула ў капілку — тры з паловай тысячы. Няма чаго здзіўляцца: на мінулым тыдні купіла рэмень да новых джынсаў. І заколкі. Учора з Люсяй схадзілі ў цырк. Але ж без кветак маму не пакінеш, яна іх так любіць…

— А лета нам навошта? — папыталася Дыяна ў Клеапатры Другой, марской свінкі, што сумавала ў клетцы. — Як наконт прагулкі?

Коеапатра Другая супраць нічога не мела. Таму марудна прыплюшчыла павекі. І яшчэ раз.

— Гадзіны дзве максімум. На большае не разлічвай, там мама вернецца з працы. Зразумела?

Павекі Клеапатры Другой самкнуліся і разамкнуліся двойчы. Яна згадзілася з рэгламентам праменаду.

Спачатку сцежка вяла ўздоўж шашы. На зарослай сакавітай маладой траўкай абочыне сінелі яркія конусы лубіну. Цёплыя сонейкі рамонкаў дадавалі пейзажу

ліпеньскай бесклапотнасці. Захапляльную карцінку аблямоўвала сваімі карункавымі суквеццямі бузіна.

— Дзівосы навокал! На зваротным шляху абавязкова захопім, — паабяцала Дыяна свінцы. — Бо завянуць, пакуль да лесу дойдзем. Шкада будзе.

Праз колькі хвілін сцежка паглыбілася ў бярэзнік. Тут рамонкі былі буйнейшыя, а на сонечных палянах пачалі трапляцца грацыёзныя званочкі.

— Ну і прыгажосць! Мама ад радасці з глуздоў з'едзе. А гэта што?

На ўзгорку, у цені маладых бярозак рассыпаліся каштоўнымі пацеркамі фіялетавыя свечкі івана-ды-мар'і. Паміж імі крывавымі кроплямі-сардэчкамі пагойдваліся спелыя суніцы. У траве ўспыхвалі агеньчыкі жоўтай лапчаткі, то тут то там загадкава міргвалі нябесна-блакітныя вочкі фіялак, трапяталіся на ветры пунсовыя зорачкі палявой гваздзікі…

— Цудоўны букет атрымаецца! Якраз для любімай мамінай вазы. Што скажаш, сяброўка?

Клеапатра Другая пытанне праігнаравала, бо была захоплена смакаваннем свежых былінак. Дыяна не пакрыўдзілася: у такі дзень усім павінна быць добра. Мама любіць радаваць людзей самымі рознымі дробнымі прыемнасцямі. І не толькі людзей.

— Шкада, што яна на працы. Любаваліся б разам. І выбралі б найлепшы букет. Добра, ідзём далей. Да рэчкі — раптам і там нешта прыгожае сустрэнецца. Хоць куды ўжо прыгажэй…

І поплаў знайшоў чым здзівіць: на сонцы ззялі люцікі, ружовыя шарыкі канюшыны, нейкія чароўныя белыя пухнацікі…

Ля рэчкі яны з Клеапатрай Другой натыкнуліся на шыкоўныя шапкі калінавай квецені, а ў сажалцы знайшлі некалькі гарлачыкаў. Дыяна разгубілася: што выбраць? Кожная кветка па-свойму прыгожая.

— Ну не цягнуць жа цэлае бярэмя! Цяжка будзе. Ды і шкада: праз пару дзён завянуць, а тут яшчэ б паквітнелі. Пачну з шыпшыны… — Дыяна працягнула руку да пяшчотных ружовых кветак.

І замерла: на пакрытай залацістымі тычынкамі сярэдзінцы ружовага цуда цалаваліся багоўкі. Ён пяшчотна перабіраў лапкамі, яна варушыла вусікамі.

Рука сама пацягнулася ў кішэню па тэлефон. Дыяна зрабіла некалькі здымкаў. І злавіла вокам час на дысплэі.

— Ой, мамачкі! Спазніліся!..

Разгублена набрала нумар.

— Мама, ты ўжо дома? Зразумела. Я? Я…

Рашэнне прыйшло само. Вельмі правільнае і своечасовае.

— Я тут. Ля Ласасянкі. Кветкі для цябе выбіраю. Так, ужо выбрала. Прыходзь…

Мама зразумела без тлумачэнняў. Як заўсёды. А праз паўгадзінкі з'явілася на беразе. Яркая, святочная. Прыгожая, маладая.

— Усміхніся, родная! А цяпер нахіліся да кветкі. Панюхай. Дакраніся асцярожна, там пчолка…




Подпіс рэдактара

***Лізавета Сцяцко,***
***СШ № 12, Гродна***



Марыя Дзербічава, СШ № 207, Мінск

*Напішы як Марыя Дзербічава — і станеш аўтарам калонкі!*

# Ты што, руды ці што?

Рудавалосыя складаюць толькі 1—3 працэнты ад усяго насельніцтва, і таму ўбачыць іх — вялікая рэдкасць. І стаўленне да іх заўсёды было не такое, як, напрыклад, да людзей з русымі валасамі.

У Сярэднявеччы рудыя лічыліся д'ябальскімі стварэннямі. Рудых жанчын называлі палюбоўніцамі сатаны. Іх спальвалі на вогнішчах ці катавалі. Старажытныя грэкі казалі, што рудыя пасля смерці ператвараюцца ў вампіраў і п'юць кроў людзей. Ды і самога сатану на карцінах часцей за ўсё малявалі рудавалосым. Лічылася, што руды — колер агню. Кажуць, што першая жонка Адама, Ліліт, была рудавалосай. Яе выгналі з райскага саду за непакорлівы характар. Але, да прыкладу, у Старажытным Егіпце рудыя лічыліся больш блізкімі да сонца. Іх прыносілі ў ахвяру богу Азірысу. І пакуль існаваў гандаль рабамі, рудыя былі самым дарагім таварам. А ў Старажытнай Русі з рудых кпілі. «Руды — як малы!» ці «А я што, руды ці што?» У часы Пятра I быў выдадзены ўказ, які забараняў людзям з рудым колерам валасоў займаць дзяржаўныя пасады.

У наш час рудавалосыя маюць такія ж правы, як і астатнія. Супраць іх няма ніякіх законаў, іх не спальваюць на вогнішчах. Зараз многім дзяўчатам (і не толькі ім) падабаецца гэты сонечны колер, і яны фарбуюць свае валасы менавіта ў яго. Але, вядома, заўсёды знойдуцца людзі, якія будуць здзекавацца з кагосьці асаблівага.

Вось, напрыклад, мая прабабуля вельмі саромелася свайго колеру валасоў. Нават бацькі ёй казалі, што гэта непрыгожа. У майго знаёмага брат — руды. І яму гэта таксама не падабаецца. Яго часта дражняць. Я чытала гісторыі пра рудых людзей. Палова з іх сцвярджае, што быць рудым — дрэнна. Многія распавядаюць, як іх у школах даводзяць да істэрык рознымі «дражнілкамі»: «А ты пірат!» ці «А чым табе мама валасы фарбуе?» Але ёсць людзі, якія ганарацца сваім колерам валасоў. Часцей за ўсё кажуць, што дражняць толькі ў дзяцінстве, а ў больш дарослым узросце — зайздросцяць. Ну, і ў каментарыях пад фотаздымкамі якіх-небудзь рудавалосых людзей я часта сустракаю: «Ты натуральна руды? Як крута».



*Малюнак Ганны БАРЫСАВЕЦ, 10 клас, гімназія № 1, Слуцк*

*Напішы як Ганна Варонка – і станеш аўтарам калонкі!*



*Ганна Варонка,*
*10 клас, гімназія № 1,*
*Свіслач*
*(Гродзенская вобласць)*

# Маніфест

*Вы — юныя,*
*разгубленыя ў свеце…*
***П. Панчанка***



Вясна жыцця — юнацтва. Час, калі ўсё яшчэ толькі пачынаецца. І мы заміраем, як зачараваныя, у чаканні цудоўных здзяйсненняў і незабыўных прыгод. Абсалютна ўсё ўпершыню, і незразумела, куды дзецца ад сваёй нястрымнай смагі да жыцця. Першыя значныя перамогі і правалы. Першае каханне. Першыя сур'ёзныя рашэнні. У твар нам дзьме вецер перамен. Мы сталеем.

Мы як птушаняты, якія навучыліся лётаць. Але, на жаль, яшчэ вельмі няўмела. Нас заносіць на паваротах і страшна глядзець уніз. Гэта час памылак. І не трэба нас лаяць за гэта. На сваіх памылках мы вучымся. Часам мы можам нагрубіць настаўнікам, пакрыўдзіць бацькоў. Ну, ці і то, і другое… Прабачце нас. Вы нас вельмі любіце і турбуецеся. Мы ведаем.

Але і вы ведайце, што толькі нарабіўшы памылак, мы вучымся іх выпраўляць. Нам да вар'яцтва страшна ў гэты час. Перад намі сотні дарог. А якая будзе правільнай? Бацькі гавораць: праграміст, перакладчык, міліцыянер, юрыст… А чаго хочацца мне? Настаўленні настаўнікаў, натацыі бацькоў, экзамены, спрэчкі з сябрамі і роднымі, ЦТ, першыя здрады і прымірэнні… А ў цэнтры ўсяго гэтага маленькі чалавек, які проста ў шоку ад таго, што з ім адбываецца. Усе чакаюць ад нас сур'ёзных, узважаных рашэнняў, адказнасці. А мы… Мы жадаем танцаваць, падарожнічаць, смяцца, жыць! Гэта не значыць, што мы не хочам вучыцца. Не, проста ў перапынках паміж тэстамі і канспектамі дайце нам паваляць дурня!

Зараз позна ляпіць з нас «ідэальных людзей». Гэты час прайшоў, мы амаль што дарослыя. І чакаем ад вас не маралей, натацый, перасцярог, што будзе цяжка. Мы гэта цудоўна ведаем, паверце. Таму чакаем падтрымкі, павагі, як да дарослага, паўнацэннага чалавека. І мы гатовы паважаць вас узаемна. Мы вас вельмі любім, хоць і не часта гэта гаворым.

Мы ўсе ідзём па лесвіцы ўверх, ад прыступкі да прыступкі. Калі становіцца цяжка і, здаецца, зараз упадзеш, — мы хапаемся за парэнчы — за нашых бацькоў. Вельмі хутка трэба будзе ісці самім. Быццам бы і радасна ад гэтай свабоды, але ў той жа час і страшна… Што будзе далей?



# Воданапорная вежа, вялікая савецкая энцыклапедыя ды іншыя забаўкі Дзядзі Вані




Дзядзя Ваня (Іван Вабішчэвіч) — не толькі вядомы рок-музыкант, лідар гурта One Hell Thing, удзельнік другога сезона конкурсу «Голос», тэле- і радыёвядучы, але яшчэ і байкер, і выкладчык у БНТУ. Пагадзіцеся, што цікава даведацца пра дзяцінства такога шматграннага чалавека.

**— Якія вашы першыя ўспаміны з дзяцінства?**

— Памятаю паездкі ў Смаленск, бо там жыла бабуля... Потым памятаю, калі першы раз прыехалі ў вёску да другой бабулі і дзядулі... А яшчэ… Вялікая савецкая энцыклапедыя! У ёй вышукваліся малюнкі і з бабулінай дапамогай перамалёўваліся. Улічваючы, што Вялікая савецкая энцыклапедыя сапраўды вялікая, яе хапіла на шмат гадоў. Мае мама і бабуля — выкладчыцы па водазабеспячэнні і водаадвядзенні (Сам Дзядзя Ваня таксама выкладае гэту дысцыпліну — заўвага аўтара інтэрв'ю), таму ў доме было шмат падручнікаў з рознымі схемамі. Памятаю, у мяне вельмі добра атрымалася намаляваць воданапорную вежу. Пазней мяне чамусьці перыядычна «прыколвала» плесці што-небудзь з дроту: ад чалавечка да аўтамата. Але гэтыя вырабы доўга не жылі, яны заўсёды ў нешта перарабліваліся. Самыя яскравыя ўспаміны — гэта святы. Дні нараджэння. Падарункі мне не так былі неабходны, як сама «тусня». Паколькі я не хадзіў у дзіцячы садок, то асноўнымі гасцямі былі сябры бацькоў са сваімі дзецьмі.

**— А ў школу вам хадзіць падабалася?**

— Так, гэта не было праблемай. Ва ўсякім выпадку, не памятаю ніякага шоку. Я хацеў пайсці ў школу, ведаў, навошта туды іду. Можа таму, што не хадзіў у садок і ад радасцей масавага выхавання не надта стаміўся, школа мне падабалася.

Адзінае, чаго не любіў, — здаваць нарматывы па чытанні: я чытаў марудна. Ды і зараз чытаю марудна — стараюся ўдумвацца. А потым алгебра і геаметрыя добра ішлі, і гэта быў мой «канёк». У мяне была школа з музычным ухілам, таму ў другой палове дня я заўсёды меў вялікую колькасць музыкі: хор, сальфеджыа, фартэпіяна… Потым трапіў у дзіцячую студыю пры оперным тэатры.

**— Вас, напэўна, прасілі паспяваць перад гасцямі на сямейных святах?..**

— Так, прасілі. Выконваў нешта з хора, потым пачалі з'яўляцца свае прыярытэты. Гадоў у 14 за лета ў мяне паламаўся голас, і на чарговым «сабантуі» я праспяваў такім добрым барытонам: «Гори-и, гори-и, моя-я звезда-а». Не прыгадаю, адкуль ведаў гэты раманс, але я яго праспяваў. Памятаю сваё першае сур'ёзнае выступленне. Мне было 5 ці 6 гадоў, я спяваў «Солнечный круг, небо вокруг», а за мной стаяла брыгада студэнтаў практычна з усіх куткоў свету — гэта быў міжнародны лагер Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута (сёння — БНТУ).

**— У вас было шмат сяброў?**

— У нас быў вельмі дружны клас. Нават калі ў старэйшых класах склад змяніўся, сяброўства захоўвалася. Усе школьныя выступленні, усе капуснікі, нават каманда КВЗ «ЧП» — адтуль. Я даўно не хадзіў на вечар сустрэч, але мы перыядычна ў звычайныя дні сустракаемся... У старэйшых класах у мяне было прозвішча Вусаты. У мяне тады пачалі прабівацца юнацкія вусішчы і я іх некаторы час не галіў. Калі б цяпер сустрэў сябе-падлетка, сказаў бы: «Чувак, галіся!»

**— А ці былі ў вас музычныя куміры?**

— У дзяцінстве куміры ў асноўным пераходзілі «ў спадчыну» ад старэйшых. У 1986-м з'явіўся гурт Modern talking, мне сказалі, што гэта модна — і я паверыў. Але старэйшая стрыечная сястра фанацела ад «Ласкавага мая», таму я пачаў ставіцца да куміраў больш рафініравана. У 1992-м, калі мне было 12, у краіну пачалі прабівацца некаторыя кліпы. Мяне радавалі Guns n' roses і Aerosmith, але ў той жа час я слухаў «Мальчишник» і дуэт «Кармен», гурты «Технология», Depechemode. У гэтым плане мой густ не змяніўся: цяпер слухаю стары добры рок. Іншыя музычныя жанры. Некаторыя прымаю, некаторых не разумею, некаторыя — адмаўляю. Адмаўляю нават не столькі жанры, колькі некаторых персанажаў і асобныя выпадкі, якія з гэтымі жанрамі адбываюцца. Я адмаўляю тых людзей, якія выконваюць сваю працу несумленна.

**— Вы ствараеце дзіўнае ўражанне: байкер, рок-музыка, КВЗшнік і вельмі просты, светлы, пазітыўны чалавек. Як гэта сумяшчаецца?**

— Рок-музыка — гэта, напэўна, самая шчырая музыка, а шчырасць павінны несці светлыя людзі. Зразумела, што байкерская культура — гэта субкультура, але па сутнасці, гэта проста вясёлыя людзі, якія любяць свабоду, а матацыкл — адна з яе ступеняў. А КВЗшнік… Вясёлыя людзі не могуць быць дрэннымі, яны могуць быць сумнымі, бо даводзіцца забаўляць іншых. І гэта не пераходы ад адной дзейнасці да другой, гэта дапаўненні. У дзяцінстве ў мяне былі такія

мары-пажаданні самому сабе, і паступова, з часам, досведам і грашыма я зразумеў, што ўжо магу сабе гэта дазволіць. Я б яшчэ і на лыжы стаў, але пакуль не атрымліваецца. Сур'ёзна б заняўся дайвінгам, але не хапае часу.

**— Як думаеце, пачуццё гумару — гэта нешта прыроднае ці яго можна выхаваць?**

— Мозг — гэта амаль што мышца, толькі крыху па-іншаму трэніруецца. Зразумела, нехта нараджаецца бегуном, а нехта скакуном, але, калі паставіць мэту, то можна развіць што заўгодна. Пытанне, ці патрэбна гэта і для чаго. Калі параўнаць выступленне нашай каманды КВЗ у школе і амаль той жа каманды ў вышэйшай лізе, яны адрозніваюцца. Прайшоў час — падраслі.

**— Якім вы бачыце сябе гадоў праз дзесяць?**

— Ды такім самым. Можа, больш запатрабаваным. Спадзяюся, будзе больш канцэртаў, а ў дварах пад гітару хлопцы будуць спяваць ужо нашы песні. Калісьці ў 11-м класе мой старэйшы таварыш Рома Старобінскі, чалавек, які стварыў каманду КВЗ «ЧП», даў мне каштоўны ўрок. «Я магу казаць табе, што дрэнна, што добра, — сказаў ён, — але я табе параю абстрагавацца і паглядзець на сябе збоку». Не заўсёды гэта проста, але неабходна спрабаваць і да гэтага імкнуцца, бо вынік ад гэтага ёсць.

**— А вашы студэнты глядзяць на вас як на выкладчыка ці як на вядомага чалавека?**

— Мае студэнты — як на выкладчыка. Аўтографы не просяць — іх яны потым у залікоўках атрымліваюць. На занятках субардынацыя: выкладчык — студэнт, а па-за аўдыторыяй мы роўныя людзі. Некаторыя студэнты звяртаюцца за парадамі ў творчасці.

**— Што можа вывесці вас з сябе?**

— Зрыў планаў. Калі не ўсё залежыць ад мяне самога. Калі ёсць ланцужок падзей, якія павінны адбыцца, і з якіх за нейкія адказваю я, а частка — залежыць ад некага. І калі гэты нехта не выконвае свае абавязкі, гэта тармозіць увесь працэс і вельмі раздражняе. З якасцей не падабаюцца неапраўданыя «панты» і несумленнасць, а прываблівае — адэкватнасць, адкрытасць…

**— Вы мысліцель ці дзеяч?**

— І мысліцель і дзеяч, усяго ў меру. Стараюся змагацца з лянотай. Часам гэта, напэўна, не лянота а стомленасць. Тады трэба выдыхнуць, каб адпачыць, — і зноў у бой!

**— Як падштурхнуць сябе зрабіць тое, што не хочацца?**

— Сказаць: «Трэба». Калі штосьці неабходна зрабіць, а ты гэта адкладваеш, то потым жа ўсё роўна зразумееш: чым хутчэй ты гэта зробіш, тым хутчэй на гэта забудзешся.

*Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

# Алі-баба, гульня для лета

Спатрэбяцца дзве каманды, пажадана, аднолькавыя па колькасці ўдзельнікаў. Каманды становяцца насупраць адна адной на адлегласці каля 10-15 метраў, удзельнікі бяруцца за рукі. Пачатак гульні абвяшчаецца воклічам адной з каманд:

— Алі-баба!

— Аб чым, слуга?! — выкрыкваюць удзельнікі другой каманды.

— Прышыць рукавы! — адказвае першая каманда.

— На чые бакі?

Вось тут пачынаецца самае галоўнае…

— Пятае праз дзясятае! — крычыць першая каманда. — Ваню (Пецю, Кацю альбо кагосьці яшчэ з каманды сапернікаў) сюды!

Той, каго назвалі, пакідае сваю каманду, разганяецца і ляціць стрымгалоў да каманды праціўніка з мэтай «разарваць ланцуг» — расчапіць рукі ігракоў. Калі яму гэта ўдаецца (безумоўна, супрацьлеглая каманда трымае абарону надзейна, але і выбраны ігрок папярэдне ацэньвае, дзе звязка можа быць не такой моцнай), ён забірае ў сваю каманду аднаго з тых, чые рукі змог расчапіць, калі ж не — застаецца ў камандзе праціўніка.

А потым усё паўтараецца, толькі «Алі-баба!» крычыць ужо другая каманда.

Перамагае ў гульні тая каманда, у якой праз пэўны час апынецца больш ігракоў альбо пакуль у адной з каманд наогул не застанецца ўдзельнікаў.

# Хто застанецца ў крузе

На зямлі чэрціцца круг дыяметрам прыкладна паўтара метра. Двое ўдзельнікаў, скачучы ў крузе на адной назе, спрабуюць выпхнуць плячом адно аднаго з круга альбо прымусіць саперніка стаць на абедзве нагі. Рукі іх пры гэтым прыціснуты да грудзей, карыстацца імі забараняецца.

Гульня ідзе з выбываннем, асабліва цікавым бывае фінал, калі ў крузе застаюцца самыя моцныя і спрытныя ўдзельнікі.



*Мастачка Аліса МАТАВІЛАВА*



Мастачка Аліса МАТАВІЛАВА

*Уладзімір СІЎЧЫКАЎ*

# У найлепшых традыцыях

## ПАДАРОЖНІЦА

Мне тата даў нарэшце абяцанне,
Якога я прычэквала бясконца:
Мы ўвосень з ім спаўняем парыванне —
Ляцім у край,
Які сябруе з сонцам.

Туды,
Дзе ў старадаўнія стагоддзі
У ланцугі закулі Праметэя,
Дзе людзі і багі жылі не ў згодзе, —
Язону жорстка помсціла Медэя.

Мінём на самалёце,
Як кузурак,
Каўказскія заснежаныя высі,
І прынясе завоблачны лазурак
У горад ружаў —
Казачны Тбілісі.

Нугзар сустрэне ў аэрапорце —
Здавён ён мой грузінскі бацька хросны —
Сто год пра стрэчу марыла я ўпотай:
Пакажа безліч цікавостак розных.

«Характар — мудрагелісты арнамент, —
Даўно мяне сяброўка Стэфа цвеліць, —
Не прыхаваць усходні тэмперамент:
Цябе ж грузін падносіў да купелі!»

Хачу пабыць на свяце Тбілісоба,
Прайсціся па праспекце Руставелі.
Паролем будзе слова «Гамарджоба!»
Ля твораў Элгуджы Амашукелі.

Ў дзіцячы завітаю парк Мзіуры —
Там пад платанамі прыемна марыць.
Пакажа нам Арчыл Сулакауры
Вахтанга Гаргасала
І бульвары.

Агледзім далечы з плато Метэхі,
Фунікулёр падыме на Мтацмінду
Дзеля пашаны,
А не для пацехі —
У Пантэоне памаўчым хвілінку.

Убачу,
Як укленчыў Ніка Пірасмані.
У тэатр імя Катэ Марджанішвілі
Наяве,
А не ў віртуальным змане
Патраплю з Нінай Сурамелашвілі.

Даліна па-грузінску будзе «велі».
Па-над сутокамі Арагві з Мтквары
Зацеплім свечкі пры Свеціцхавелі,
Паклонімся старому храму Джвары.

*Уладзімір Сіўчыкаў шмат піша для дзяцей. Да прыкладу, у 2014 годзе выйшла яго кніга вершаў «Кошык Велікодны». А яшчэ Уладзімір Сіўчыкаў — перакладчык. Добра ведаючы грузінскую мову, ён пераклаў раман Н. Думбадзэ «Закон вечнасці», а таксама шэраг вершаў і паэм грузінскіх паэтаў для «Анталогіі грузінскай паэзіі», што пабачыла свет ў 1989 годзе.*

Параскашую ў водарах базара.
Не можа быць,
Каб не раскаштавалі
Не без прымусу тамады Нугзара
Шашлык,
Сацыві,
Лобіа,
Хінкалі…

Дзівосаў многа буду я ахвочай,
З тых,
Пра якія чула ўжо багата,
Убачыць не ў кіно —
На свае вочы
У падарожжы,
Што падорыць тата!

## РАДАЎНІЦА

На дзявяты дзень пасля Вялічка
Раніцою ў Жодзіна паедзем.
Мы з сястрой — цікаўныя сінічкі,
Нават ля камп'ютара не ўседзім!

Выпраўляцца любім у вандроўку
З татам на ягоную радзіму
Ў час прылёту птушак,
Бо і зноўку
Там пабачым ледзь не ўсю радзіну.

Радаўніца — радасны і скрушны,
Даўні звычай продкаў памінання,
Дзень вяртання
Адляцелых душаў,
Светлых напамінкаў,
Дзень яднання.

Ручнікамі белымі засцелем
Зараней прыбраныя пагоркі,
Яйкі, пасху між усіх падзелім —
Пачастунак наш не будзе горкі.

Спачывае хай прабабця Ганна.
Дзеда Вані, бабы Волі змерклі
Помнікі.
Іх памятаем цьмяна...
І крыху пабойваемся ўмерлых.

Слухаць лепш,
Запісваць успаміны,
Фатаграфаваць і замалёўваць,
Вызнаваць найноўшыя навіны —
Дрэва радаводнае ўмацоўваць.

## ВОСЕНЬСКІЯ ДЗЯДЫ

Багатыя,
Асеннія Дзяды...
Ізноўку мы прыйшлі на Асяніны
Да дзядзькі Петруся і цёткі Ніны.
Паважны і ўрачысты,
Як заўсёды,
Настрой пануе ў хаце.
Чысціня —
Уцеха продкам,
Што сваю гасподу
Наведваюць зазвычай у суботу,
Нясуць лагоду і спагаду нам.
Запаліць звыкла свечку гаспадар,
Святочна прагучыць яго малітва,
Пакліча тых,
Хто насяляў сялібу
Раней,
Каб ім прынесці ўдзячна дар.
Ад кожнай стравы ў місу адкладзе
Па лыжцы,
Аднясе на падаконне,
Пачне вячэру ў сцішаным сутонні
Ад клёцак з «душамі»,
Як чарадзей.
Сваім бацькам не будзем назаляць,
Падзячым,
Сыдзем у пакой дзіцячы
З Марылькай,
Ды не станем там лайдачыць —
Батлейку вельмі хочам паказаць.


Малюнак Юліяны ХУДНІЦКАЙ, гімназія № 75, Мінск (кіраўнік Ляпёшкіна Галіна ІВАНАЎНА)

***Ліна БАГДАНАВА***

# Збавенне

Сакавік — не лепшы час для візіту ў вёску. Набрынялы веснавой вадой снег правальваецца на кожным кроку. Ногі грузнуць глыбока, ледзь не па калені. У боты прасочваецца вільгаць. Пакуль дабрыдзеш да прыпынку, ужо не застанецца ні сілы, ні настрою на жвавы дыялог. Тут бы элементарна абсохнуць, сагрэцца і заснуць. Да абеду. А там ужо…

Можна был б, канечне, рызыкнуць і прыехаць на старэнькім «фордзіку». Але не факт, што дасягнеш мэты. Снег добра хавае хібіны вясковых дарог. Запраста можна зваліцца ў роў або трапіць у разбітую за восень каляіну. Тады давядзецца чакаць каля мора пагоды — папуткі ў гэтую пару рэдкія. А вадзілы — раўнадушныя. Хіба шураваць пешкі ў вёску, адрываць ад тэлевізара дзядзьку Антона, выманьваць са стойла старэнькую Рабку. Цягнуцца ў зваротны шлях. Сабе даражэй — вымакнеш двойчы, калі не тройчы: цягнуць са снежнага палону аўтамабіль — праца, мякка кажучы, няўдзячная. Ды і часу шмат пройдзе.

Лёшка супраціўляўся да апошняга. Але мама настойвала на сваім: парсючка сабраліся калоць у гэтыя выхадныя. Не чакаць жа, пакуль мяса пратухне. А за суботу-нядзелю вельмі шмат чаго трэба паспець. Пакуль студзень зварыш, пакуль каўбас накруціш, дык час і на працу збірацца.

— Ды і бабулю даўно не адведвалі. Паехалі ўжо. Будзь сябрам.

З мамай асабліва не паспрачаешся. Трэба дык трэба.

Да таго ж неабходна было выкупіць віну за мінулую нядзелю. Лёшка тады выправіўся з сябрамі на рыбалку без мамінага дазволу. Не хацеў турбаваць, а выйшла наадварот. Мама ўзняла на ногі суседзяў. Аббегалі ўсю ваколіцу. Толькі вечарам здагадалася патэлефанаваць Вадзькавай маме, якая аказалася (Вадзька здагадаўся-такі адпрасіцца) у курсе сяброўскіх планаў.

Пасля давялося доўга тлумачыцца. Каяцца. І пакутаваць — бацька настаяў на хатнім рэжыме. А мама амаль тыдзень не размаўляла з сынам-свавольнікам. Толькі ў пятніцу пачала. І адразу з месца ў кар’ер: едзем у вёску.

Рабіць няма чаго. Лёшка адмяніў усе свае суботне-нядзельныя мерапрыемствы, зганяў на аўтавакзал, купіў пару білетаў туды, пару назад. Дапамог маме купіць гасцінцаў для родных. Знайшоў у кладоўцы старыя боты. І адчуў сябе амаль героем. Часам бывае карысна прызнаваць сваю віну. І каяцца. А лепш выкупляць яе нечым карысным і прыемным. Асабліва калі табе гэта амаль нічога і не каштуе.

Дарога адняла не вельмі шмат часу. І аказалася зусім не сумнай. Наадварот, спачатку ў салоне транслявалі хакейны матч з удзелам любімай каманды, потым аўтобус з’ехаў з новай трасы, і ў акне пачалася дэманстрацыя эпізодаў сельскага жыцця. Лёшка і не думаў ніколі, што назіраць за жыццём людзей з акна аўтобуса можа быць такім захапляльным заняткам. Звычайна яны з бацькамі пад’язджалі да вёскі лесам. Елкі-бярозы яго мала цікавілі. Казулі ды лісы трапляліся на вочы выключна рэдка. А вохкаць над кветкамі-грыбамі — гэта больш маміна справа.

І вось цяпер ён змог столькі ўбачыць…

Карцінкі мяняліся з частатой рэкламных ролікаў. Мужык загружаў павозку парыжэлым сенам. Яго конік цярпліва патрэсваў грывай, выпускаў з ноздраў сівымі клубочкамі пару, біў капытом у сумёт. Закручаная ў вялізную хустку цётка няўклюдна паласкала бялізну ў сажалцы. Дзеці з віскамі і радаснымі крыкамі каталіся з горкі на кавалках кардону.

За празрыстым штакетнікам руды хлопец у старой шапцы на адно вуха калоў стракатыя бярозавыя паленцы. Дзяўчына несла на сапраўдным — раней Лёшка бачыў такое толькі на карцінках — каромысле вёдры з вадою.

Ля крамы натоўп па-святочнаму апранутых мужчын і жанчын усаджваўся ва ўпрыгожаныя паветранымі балонікамі і каляровымі стужкамі санкі. Дзядзька з гармонікам праходжваўся паўз натоўп, шырока разяўляючы рот, — мабыць, спяваў. Трохі збоку сабралася купка дзяцей, якія пазіралі на дарослых з прыкметнай зайздрасцю.

Вёска скончылася крыжам, абкручаным плюшчам і галінкамі елак. За акном заміргалі цёмныя праплешыны пагоркаў, пакрытыя цьмяным снегам палянкі. Грабеньчыкі сівых елак на гарызонце. Схаваныя за галінамі дрэў гаспадарчыя пабудовы і хутары.

Зноў пачалася вёска. З вокнаў на аўтобус пазіралі бабкі. Ля царквы рупіліся румяныя мужыкі.

Ля ганку пахіленай хаткі бабуля карміла курэй. Два калматыя сабакі з энтузіязмам суправаджалі трактар з прычэпам, абсалютна ігнаруючы аўтобус.

Стайка шэрых гусакоў корпалася ў раўчуку. На плоце, не звяртаючы ўвагі ні на каго, засяроджана мылася кошка.

— Збірайся, сынку, — нагадала пра сябе мама. — Пад'язджаем. Сумку зверху не забудзься зняць.

Дзе ўжо тут забудзешся, калі ў сумцы любімы планшэт. Нават дзіўна, што ён узгадаўся Лёшку толькі зараз. А збіраўся ж з сябрамі ўсю дарогу перапісвацца. Абмеркаваць учарашні паход на стадыён. Забыўся… Гэта ж трэба!

Абыходзячы падазроныя яміны ў снезе, Лёшка затрымаўся ля рва. Заўважыў хлопчыка гадоў сямі, які адчайна караскаўся па агромністай ліпе. З чаго б гэта яго на такую вышыню занесла? Побач, задраўшы галаву, стаяла дзяўчынка. Чырвоная шапачка з вялікім кутасом, заледзянелыя рукавічкі. Чырвоныя вочы. І нос такі самы. Па ўсім відаць, што плакала. Мо нават раўла. Нядзіўна — у малечы заўсёды вочы на мокрым месцы. Лёшка грэбліва ўхмыльнууўся: яго аднакласніцы цяпер не плачуць — баяцца, каб фарба не пацякла. Церпяць, гаротніцы. А ў гэтай яшчэ ўсё наперадзе.

— З якога перапуду братан на дрэва ўзлез? — абыякава спытаў Лёшка.

— І ніякі ён мне не братан, — дзяўчынка ўсхліпнула і выцерла нос бруднай рукавічкай. — Ніякі не братан. А звычайны гад!

Лёшка чакаў працягу, з цікаўнасцю пазіраючы на «альпініста». А што тут напружвацца, калі суразмоўца сама вось-вось пойдзе на нязмушаны дыялог.

— Гад ён, Ромка, — і зноў шморгнула шматпакутным носам. — Б'ецца амаль штодня. Або іншыя пакасці прыдумляе. Давядзе да слёз, увесь дзень сапсуе, а потым вось — геройствуе. Подзвігамі ўсялякімі ў мяне прабачэнне выпрошвае. Учора па сіні лёд у студню лазіў. Сёння па амялу вось палез. І навошта куралесіць? Раптам зваліцца? Адказвай пасля…

Дзяўчынка яшчэ нешта казала. І пагражала бруднай рукавічкай крыўдзіцелю. А Лёшка ўжо даганяў маму, дзівячыся нечаканаму супадзенню. Не адзін ён, аказваецца, свае прамашкі добрымі справамі прыкрывае. Трэба ж, малы, а разумее, як з сітуацыі выйсці.

— Пакаленне нэкст, усё злёту хапае, — бурчаў ён, адчыняючы знаёмую брамку.

— Ты гэта пра што, сынку? — пацікавілася мама.

— Ды так, філасофствую трохі. Прывітанне, дзядзька Антон. Як справы?

Лёшка застаўся ў двары, не хацелася тлумачыцца з мамай наконт вышэйшых матэрый.

Дзядзьку ён любіў з дзяцінства. Важдаўся з ім у гаражы, назіраў за рамонтам магутнага МАЗа. Падабалася дапамагаць дзядзьку і на сенакосе, і ў лесе. Упраўляцца з конскай збруяй. Разам цягаць на гарышча скрыні з яблыкамі. Ды ці мала працы ў вёсцы. І адразу зразумела, якая мужчынская, а якая наадварот.

Менавіта тут Лёшку здавалася, што ён робіцца сапраўдным мужчынам. Усё часцей і больш упэўнена ён узмахваў касой, усё дакладней выводзіў «васьмёркі» коламі грузавіка. Асвоіў бензапілу і матаблок. Самастойна адвозіў у прыёмны пункт малако. І паглядаў на старэнькі «Урал», які чакаў сваёй чаргі ў глыбіні прасторнага гаража.

— З чаго пачнём? Нажы вастрыць? Ці ваду цягаць?

— Не спяшайся, памочнічак. Зрання кабанчыка завалілі. Трохі астыне — разбяром, як у аптэцы. Па палічках раскладзём. Бабам на радасць. А пакуль мне па справах у Доўгую пракаціцца трэба. Запрагай Рабку.

— Не пытанне.

Лёшка сцягнуў з плоту конскую вупраж. Абыякавым рухам адчыніў брамку ў сад. Падышоў да хлява, дзе трымалі Рабку.

— Прывітанне, прыгажунька.

Кабылка нягучна хмыкнула, выказаўшы радасць ад сустрэчы са старым сябрам. Страсянула пасівелай грыўкай. Нязграбна пакульгала да выхада.

— Старая ты зусім зрабілася, Рабка! Час на заслужаны адпачынак ісці, — Лёшка намацаў у кішэні пячэнне, працягнуў кабылцы, — нават іржаць развучылася.

— Не скажы, — ззаду падышоў дзядзька Антон, — пры жаданні яшчэ ого як гарлапаніць. Хоць такія жаданні прыходзяць да яе ўсё радзей. А на працу я яе амаль не выводжу. Так, па дробязі. Малако завезці, бабулю ў царкву, цётку тваю ў краму.

*Ліна Багданава — псеўданім настаўніцы матэматыкі і намесніка дырэктара па выхаваўчай працы гродзенскай сярэдняй школы № 12 Галіны Анатольеўны Богдан, аўтаркі шэрагу «дарослых» кніг і «бярозкаўскай» рубрыкі «Сітуацыя плюс». Менавіта дзякуючы супрацоўніцтву з «Бярозкай» яна рашылася праспрабаваць сябе ў «падлеткавай» прозе. І спроба гэтая больш чым удалая!*

Разам яны запрэглі Рабку ў вазок за некалькі хвілін.

— А як жа палі-агароды? — працягнуў размову Лёшка, усаджваючыся ў вазок. — Бензіну ж не напасешся. Дарагое цяпер машыннае пойла.

— Не напасешся. Ды і шкода матаблок па калдобінах біць. Для такіх патрэб я каняку ў гаспадарцы выпісваю. На пару дзён. Нядорага абыходзіцца.

— Мо час кабылку памяняць?

— Мо і час, — пачухаў патыліцу дзядзька Антон, выводзячы вазок на дарогу. — Але ў нас з Рабкай свая арыфметыка.

Дзядзька прымасціўся побач з пляменнікам і задумаўся.

— Падзяліцеся, калі не сакрэт.

— А і раскажу, справа няхітрая. Якраз на дарогу туды і назад хопіць.

***

Сакавік — не лепшы час для гандлю. Антон лічыў менавіта так. Яблыкі страцілі таварны выгляд. Морквы толькі сабе і засталося. Бульбу людзі не бралі. На саленні касіліся падазрона. Ад мёду ўвогуле адварочваліся.

Сухія грыбы скончыліся. Куры несліся праз дзень, а то і праз два. Хіба кабанчыка закалоць. Дык і самім жа нешта трэба есці.

І кабылу без дай прычыны туды-сюды ганяць не справа. І стаяць цэлы дзень, рот разявіўшы, сорамна. Холадна да таго ж. Карацей, імкнуліся па пустому на кірмаш не ездзіць. Чакалі цяпла, першай зелянiны і росту цэн на бульбу.

Але аднойчы традыцыі давялося падправіць. Сына забіралі ў войска. Маці настаяла на прыстойным застоллі. Давялося Антону напрэгчыся. Выграбці са скрыні недатыкальны запас.

— Не хапае, — падлічыла грошы жонка. — Давядзецца кабанчыка закалоць і яек сабраць мо якую сотню.

— А не аб'ядуцца твае госці яйкамі? — хітравата прымружыся Антон.

— Гэта я не ім, — не зразумела жарту заклапочаная праблемай жонка. — Ім за вочы двух дзясяткаў хопіць. На салаты-катлеты. Гэта я на кірмаш збяру. Прадасі, выручку на гарадскія прысмакі пусціш. Адзінага сына ў людзі выпраўляеш, няма чаго скнарнічаць.

Карацей, сабралі вазок. Варэнні-саленні. Сала свежае. Сотню яек зверху.

— І маянэзу не забудзься! — давала апошнія распараджэнні маці. — Без маянэзу свята не свята. І селядцоў тлусценькіх.

— У нашай краме купіце! — адмахваўся Антон.

— У нашай такога не купіш. На стол гарадскія стравы падаваць трэба.

— Ды ну вас! — крануў гаспадар Рабку. — Горш чым восеньскія мухі. Праўда, сяброўка?

Сяброўка падміргнула чорным вокам. З адабрэннем буркнула. І пабегла рыссю.

— Гэй, лягчэй! — асадзіў кабылу Антон. — Не дровы вязеш. Яек поўны вазок. Пасцеражыся гадзінку, будзь сябрам. Разаб'ём тавар — нас бабы дома засмяюць. Калі не паб'юць. А тут не дарога, а амерыканскія горкі. Ох, як бы гэта без праблем дабрацца. Каму сказаў?!

Рабка пацішэла. Пайшла роўным скорым крокам. А за ваколіцай зноў прыпусціла, абрадаваная яркімі сонечнымі промнямі, вострым пахам ветру і свабоды.

— Я табе! — час ад часу пакрыкваў на маладую няўмелую кабылку Антон. — Я табе!

А вакол прачыналася вясна. Падстаўляла застылыя за зіму зямныя бакі сонцу. Сляпіла вочы сонечнымі зайкамі, што пляскаліся ў лужынах. Серабрылася сасулькамі на правадах. Дурманіла саладжавымі пахамі набрынялых пупышак. Цямнела палонкамі на балоце. Шапацела пажоўклым чаротам на ветры. Слізгала па заезджанай каляіне…

Даслізгалася.

Зазявалася Рабка, аступілася і пакацілася па крутым беразе. Прама на лёд! Той не вытрываў націску. Затрашчаў, асеў, выпусціў з-пад сябе ваду.

— Ку-уды? — запознена спахапіўся Антон. Пацягнуў лейцы на сябе. Ды позна. Рабка правалілася. Вазок нахіліўся.

Давялося саскокваць з наседжанага месца. Лезці ў ваду, цягнуць на сябе за лейцы і кабылу, і вазок. Куды там! Яшчэ трохі — і паплыў бы Антон разам з Рабкай і таварам у далёкія далячыні. Добра, што праязджаў знаёмы трактарыст. Выратаваў вазніцу разам з транспартным сродкам. І з багажом.

— Прывітанне маржам! — асклабіўся залатазубай усмешкай. І параіў на развітанне: — Вы лягчэй з такімі раннімі купаннямі. Наўкола гаць непралазная, зацягне.

— Вучы вучонага! — працадзіў скрозь зубы Антон, разварочваючы вазок. — Якія тут купанні! Дахаты б дабрацца. Вымак да вушэй, цяпер не да кірмашу.

Давядзецца вярнуцца. Пераапрануся хутка, на кірмаш паспею. Было б што везці. Напрасткі ўміг даімчым. Пакуль падмарожана, нас і балота вытрымае.

Ён звярнуў на сцежку ўздоўж балота. Рука мацала вёдры і слоікі на прадмет цэласці. Дабралася да каша з яйкамі:

— Ах ты ж паразітка! Увесь тавар загубіла! Ды я табе зараз!

Рабка не зразумела. Ірванула наперад, вывернуўшы на Антона рэшткі яечных прыпасаў. Той спыніў вазок.

— Ну, трымайся ў мяне, свавольніца!

Замахнуўся пугай. І пайшоў на кабылу. Тая захрыпела, адступілася. Прыняла на сябе ўдар. Другі. Пакрыўджана заіржала, забіла капытом, абдала гаспадара брудам з галавы да ног. Непрыемны ліпкі камяк аплявухай ударыў па шчацэ.

— Ах так!

Антон пачаў лупіць Рабку пугай, што было моцы.

— Я табе пакажу самаўпраўства! Я табе пакажу! — нетрывушчая злосць ахапіла яго, пазбавіла розуму і спачування.

Рабка іржала, звала на дапамогу. Ірвалася бегчы. Білася ў цесных путах. Дзіка варочала сваімі вялікімі вачыма. Слёзы яе змешваліся з крывавай пенай і сцякалі на бруднае снежнае крошыва пад нагамі. На спіне кабылы ірвалася пад пугаю скура. Кроў пульсавала фантанчыкамі, праразала ў кароткай поўсці разоркі-раўчукі.

Цёплыя крываныя пырскі трапілі Антону ў твар. Прама ў вочы.

— Што гэта я? — пранеслася ў аслепленай злосцю свядомасці. — Навошта гэта я?

Ён застыў з узнятым кнутом. Адступіўся на крок. Выцер вочы. І зірнуў на сябе збоку. Перакошаны нянавісцю твар, заляпаныя брудам і крывёю шчокі, скрыўлены рот. А побач… Побач поўныя болю і смутку вочы з доўгімі калматымі павейкамі.

— Божа, ды што гэта я?! Ды што ж гэта такое нарабілася?! — Антон заплюшчыў вочы і кінуўся ад Рабкі.

Ды што там кінуўся! Трэба было бегчы, куды вочы глядзяць. Ляцець прэч ад свайго сораму. Праваліцца скрозь зямлю і трапіць у пекла. Вытрываць у сто разоў большыя пакуты, толькі б не бачыць гэтых няшчасных вачэй і пралітай уласнай рукою крыві. Забыцца. Згарэць ад сораму. Прасіць прабачэння. Каяцца.

Яшчэ крок. Нага, пазбавіўшыся апоры, паслізнулася на снезе і трапіла ў багну. Антон страціў раўнавагу, нахіліўся назад і паваліўся ніц. Прама ў халодную балотную жыжу.

— Так мне і трэба! — раўнуў ён у неба. — І мала яшчэ! Забіць такога мала! ЗА-БІЦЬ! Зрабі гэта, Божа! Іначай я кабыле ў вочы глянуць не змагу! Зрабі!

Магчыма, на нябёсах яго заклік быў пачуты. Бо ў тую секунду Антон усвядоміў, наколькі блізкі ад пагібелі. Ірвануў назад. Але позна.

Вертыкальнае становішча прыняць удалося. Антон спуджана азірнуўся. Пад рукою апынулася толькі пуга.

Трохі на адлегласці ён заўважыў пакрытую снегам купінку.

— Вось яно, маё ратаванне. Калі ў снезе, значыць, сухая.

Ён выкруціўся ў адваротны бок і кінуўся целам на купінку.

Багна не збіралася аддаваць здабычу. Стратэгія выйшла Антону бокам: цела пагразла па грудзі. Ён бездапаможна азірнуўся наўкола. Сам сабе долю абраў — месца гіблае. Людзі абыходзяць яго. Хіба восенню скарачаюць дарогу да грыбных мясцін. І тое з апаскаю. Узімку ж ніводнаму нармальнаму чалавеку не прыйдзе ў галаву тут апынуцца. Ды і вясною тут адны дуралеі трапляюцца. Дакладней, адзін трапіўся.

— Мабыць, канец… — сіплавата прасвістаў у нікуды Антон. — Да таго ж крыўдны. Каму скажы, што сам сабе пастку абсталяваў, — не паверацьь. І што цяпер рабіць? Песні спяваць ці маліцца?

Ён імкнуўся ўспомніць, як і трэба перад смерцю, усё самае важнае ў сваім нядоўгім жыцці. Дарэмна. Успаміналіся нейкія глупствы. Зборы на кірмаш. Мітусня. Кавалак перавязанага вяроўчынай сала ў бабчынай сумцы. Пацiснутыя Рабкай яйкі. Сама яна.

— Я то прападу ні за грош, а як жа кабылка? — Антон імкнуўся павярнуць да берага і яшчэ больш заграз. Адна рука ўжо пагрузілася ў жыжу.

Ззаду пачуўся храп. Рабка.

— Жывая, значыцца. А я са сваімі бедамі на цябе забыўся. Ты ўжо даруй мне, грэшніку. Сам не ведаю, што нарабілася. Злосць розум заслала. Баліць табе мабыць. Ды што пытацца — баліць. Не трымай на гаспадара злосці. Дамоў бяжы. Вернешся — зразумеюць, што няма гаспадара, канец прыйшоў. Людзі збяруцца, ваколіцу прачэшуць. А мо ты іх да маёй магілкі давядзеш. Анютка вяночак на бярозку павесіць. На Радаўніцу прыйдуць памаліцца. Ідзі ўжо…

Салёная гарачая слязіна скацілася ў перакошаны крыўдаю рот. Антон не ўтрымаўся, заплакаў. Дурны, нікому не патрэбны канец. Дурны, нікому не патрэбны мужык. Дурны, нікому…

Гарачае дыханне апякло мокрую патыліцу. Быццам анёл за спінай. Вось яшчэ… Якія анёлы ў XXI стагоддзі? Нешта цёплае пацякло па шыі.

Што?! Не сам жа Антон прыдумаў! Значыць, анёлы. Але чаму?..

Гарачае дыханне перарвала завоблачны палёт думкі. Пахла прэлым снегам, яблыкамі і нечым знаёма кіслым. Рабка!

— Шкадуеш? Даравала, значыць? За гэта дзякую — з дараваннем лягчэй сыходзіць. Ну, не цягніся, усё роўна не магу павярнуцца. І за галаву не схапіць — рукі амаль не чую. Дамоў бяжы, родная. Дамоў…

Нешта пацягнула свабодную руку назад. Антон пакасіўся вокам: пуга! Пуга сама сабою цягнулася да берага! Не, не сама… Рабка!

Сабраўшы апошнія сілы, Антон кінуўся целам да берага. Кабыла цягнула пугу зубамі. Нецярпліва фыркала, змахвала з вачэй мокры чуб. Зноў цягнула…

Антон ухапіўся за канец пугі. Не тое… Каб лейцы…

— Думай, Рабка, думай.

Кабыла адступіла на крок. Стала на калені. Як шмат гадоў таму, калі сын Антона гуляў з жарэбчыкам «у цырк». А сам Антон частаваў «артыстаў» яблыкамі і мядовымі пернікамі.

— Памятаеш… Даруй... — камяк у горле не даў гаварыць. Слёзы ліліся раўчукамі. Антон ужо не адчуваў іх салёнасці і цеплыні. — Дамоў ідзі. Дамоў…

Кабыла незадаволена фыркнула і нахілілася ніжэй. Патрэсла галавою. Зноў фыркнула. Лейцы! Яны плавалі побач са свабоднай рукой. Варта было толькі ўхапіцца ямчэй…

***

— І я ўхапіўся, — дзядзька Антон завяршаў свой аповед, пад’язджаючы да хаты. — А яна, уяві, быццам таго і чакала. Устала на ногі. Пацягнула. Доўга мучылася — балюча ёй было. Цярпела.

— Выратавала? — шэптам уклініўся ў маналог Лёшка.

— Сам бачыш. Ні за грош, выключна па дабраце душэўнай. Не тое што некаторыя… Жывёлы лепшыя за людзей. Больш прыстойныя. Але доўг трэба аддаваць. Цяпер я яе пешчу. Жонка смяецца, а я ёй штодня кашу грэцкую вару. Яе любімую. Яблыкаў не шкадую. Аўсу таксама. Мыю ў цёплай вадзе. Загончык ля цёплай сцяны паставіў. А ўсё роўна дагэтуль сорамна ў вочы глядзець. Калі ўжо выкуплю віну, сам не ведаю.

— Выкупіш? Гэта таксама збавенне?

— Наўрад ці. Занадта гучна сказана. Мой дзед віну сваю перад Радзімай жыццём у вайну выкупіў. Гэта я разумею, збавенне. А тут… Але дзявацца няма куды. Жыццё, брат, такая штуковіна…

Вечарам, варочаючыся пад нязвыкла цяжкай і мяккай коўдрай, Лёшка пачуў малітву маці. Тая нясмела жагналася перад абразамі, ціхенька нашэптвала свае просьбы Маці Божай:

— І навошта я сарвала сына? Магла б сама справіцца, ды і брат дапамог бы. Даруй мне, Маці ўсіх маці. І мужу наказвала заўтра прыехаць. А ў іх жа свае справы ёсць. І планы свае. Прасвяці, святая заступніца! Дай віну сваю перад роднымі выкупіць. Пашлі мне мудрасць…

Лёшка ўздыхнуў. Павярнуўся на другі бок. Прыслухаўся да сябе. Пад лыжачкай раптам утварыўся камяк. Тугі, цяжкі, на душу цісне. Быццам грушу няспелую з’еў. У свядомасці выстройваліся ў рад і змешваліся, зноў выстройваліся і змешваліся, быццам незадаволеныя вызначаным парадкам, маленькія алавяныя салдацікі. Хоць не, некаторыя з іх істотна вылучаліся памерамі. Але не спяшаліся заняць перадавыя пазіцыі ў нястройным радзе. Лёшка прыгледзеўся. Здаецца, зразумеў. Не салдацікі сноўдалі па пляцы яго памяці, а збавенні. Такія розныя. І такія падобныя ў нечым важна-неўсвядомленым. Прадзед… Рабка… Мама… Хлопчык на ліпе… Сам Лёшка… Яго ранішняе геройства сплюшчвалася пад напорам новага разумення сутнасці адной з вышэйшых матэрый.

Знайшоў сабе збавенне! Хвост растапырыў, герой! Ды адна Рабка цябе за пояс заткне сваім учынкам. Або мама. Пра прадзеда лепш увогуле не гаварыць…

Лёшка ўстаў.

— Ты куды? — спахапілася мама.

— Вадзічкі папіць…

Выйшаў у сенцы. Цёмна. Ціха. Холадна. Добра… Вось толькі вушы гараць. І грушавы камяк не дае спакою. Зачарпнуў з вядра вады. Адпіў пару глыткоў. Ужо лягчэй.

Нахіліўся. Зірнуў за акно. Спіць вёска. Толькі ліхтар над мехдваром на ветры целяпаецца. Дапіў ваду. Паставіў кубак. Заўтра рана ўставаць.

Лёшку хацелася апярэдзіць маму. Зрабіць да яе абуджэння паболей. Проста так. Без усялякіх вышэйшых матэрый.

***Пераклад з рускай Святланы Дзянісавай***



# Першая летняя страва...

## ... і лёгкая-лёгкая справа

*Чуць міска ткнулася сюды, дык у яе, як па прыказу, відэльцаў з восем лезе зразу.* Што гэта так елі ў коласавай «Новай Зямлі» — хто адкажа? У каго па літаратуры «выдатна»? Правільны адказ: верашчаку. Ды з аладкамі! *На гэта хлопцы былі хваты, аладкі кроілі ў квадраты (хоць геаметрыі не зналі) і на відэльцы іх чаплялі, як бы на тычкі тыя вешкі.* Памятаеце, як там *мужчыны бралі па аладцы і аж пацелі, небаракі?* Як *з аладкі дзядзька рабіў трубку, каб лепш здаволіць сваю губку?* Аладкі, дружа, — першая летняя страва. А гатаваць іх — даволі лёгкая справа! Дай я цябе навучу. Значыцца, так…

***Бярэш***

Яйка (можна і два), паўшклянкі кефіру (лепш, канешне, сыраквашы), сталовую лыжку смятаны, тры сталовыя лыжкі цукру, трошачкі солі, трошкі больш ваніліну, паўчайнай лыжачкі соды і нейкую колькасць мукі — столькі, каб, усё змяшаўшы і некалькі разоў лыжкай добра ўзбіўшы, атрымаць цеста, якое будзе нагадваць густую манную кашу. Далей табе спатрэбяцца алей, варэнне (яшчэ лепш — пенка ад яго, толькі што зваранага), мёд або смятана — для смакавання. І малако — для запівання.

***Што далей***

Ставіш на агонь патэльню, наліваеш алей (не шкадуючы, каб аладачкі хоць і не тапіліся ў ім, але ўсё ж плылі, як лодачкі, а не соўгалі па дне, быццам наважыліся перапаўзці патэльню ў брод), і калі алей нагрэецца… Не, не адразу наліваеш цеста, а спачатку мочыш у алеі сталовую лыжку, і ўжо гэтай лыжкай акуратна зачэрпваеш цеста і паволі апускаеш на патэльню. Цеста будзе саскокваць са змазанай алеем гарачай лыжкі так ахвотна, быццам яно толькі пра гэта і марыла — ператварыцца ў лодачкі-аладачкі.

А зрэшты так яно і было, дружа!

Цяпер аладачкі-лодачкі мараць трапіць да цябе ў раток. Дык не расчаруй іх, дружа!

# Бярозка

натхняцца ўзорамі



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***



Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактар:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк 09.07.2015 г.
Фармат 60х84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 5,40.
Тыраж 994 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 16 500 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск






**Клуб сяброў часопіса**:
*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*
Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія № 1 (Свіслач, Гродзенская вобласць), гімназія № 1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, СШ № 25 (Мінск), Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён), ліцэй № 1 (Мінск), ліцэй № 2 (Мінск), гімназія № 35 (Мінск), гімназія № 16 (Мінск), СШ № 15 (Баранавічы), СШ № 38 (Мінск), Зажэвіцкая СШ (Салігорскі раён), СШ № 20 (Мінск), СШ № 10 (Барысаў), Асіповіцкая гімназія, Забалацкая СШ (Воранаўскі раён), Вялічкавіцкая СШ (Салігорскі раён), гімназія № 61 (Мінск), СШ № 77 (Мінск), Сакалоўская СШ (Чэрыкаўскі раён), Уладзімір Міхайлавіч Голубеў (Мінск), Гезгалаўская СШ (Дзятлаўскі раён), гурток «Юны журналіст» (Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, Петрыкаў), гімназія № 23 (Мінск), СШ № 4 (Мар'іна Горка).

*На першай старонцы вокладкі — малюнак вучаніцы 8 класа мінскай гімназіі № 75 Варвары Карзюк.*

# У старым Старым замку…

***Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей прадстаўляе***



Найбольш увагі прыцягвае да сябе вялікая кавалая скрыня-ляда, зробленая ў Гродне ў 1797 годзе. У такіх скрынях захоўваліся грошы цэха, сімвалы ўлады цэхмайстра і каралеўскія прывілеі. Унікальны ўнутраны замочны механізм працуе дасюль, але можа быць прыведзены ў дзеянне толькі двума ключамі адначасова.



Сонечны гадзіннік, выкананы Янам Ігнатам Манувірам, каморнікам Вялікага Княства Літоўскага. Па краях пласціны — табліцы з інфармацыяй аб планетах Сонечнай сістэмы, іх руху і адлегласці да іх, складзеныя ў XVII стагоддзі астраномам Ціха Браге.



Гэтыя іканастасныя вароты патрапілі ў музей з вёскі Лясковічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Сплецены з саломы і замацаваны на драўляным каркасе пры дапамозе ільняных нітак. Жывапісныя вобразы выяўляюць чатырох евангелістаў з традыцыйнымі для іх сімваламі: Матфея з анёлам, Марка з ільвом, Луку з быкам, Іаана з арлом.

Паводле Юзафа Ядкоўскага гэта крэсла — з эпохі Сасаў (часу кіравання саксонскай дынастыі Віцінаў у Рэчы Паспалітай — 1697—1763 гады). У 1855—1864 гадах яно знаходзілася ў віленскім музеі старажытнасцей Яўстафія Тышкевіча.



Тканы пояс падобны да слуцкага. Сатканы на персіярні ў Ліпках, непадалёк ад Варшавы. Даўжыня 410,5 см, шырыня — 43,5 см. Вага — 820,7 г — абумоўліваецца шчодрым выкарыстаннем залатых і срэбных нітак у спалучэнні з шаўковымі.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Гродна, Стары замак.***
***Дзе можна прачытаць падрабязней: часопіс «Маладосць», № 7 за гэты год.***

## ЗАГАДКІ-АДГАДКІ

*Ад вучняў 7 класа гімназіі № 75 Мінска і ад шасцікласніцы з Гезгалаўскай СШ Дятлаўскага раёна Насці ЛАШЧЭЎСКАЙ.*

***Ад Надзеі ГРЫШАЛЕВІЧ***

На кухні ў куточку стаіць
І грэе, лічы, за хвіліну
І супчык, і смажаніну…
Яе толькі трэба ўключыць.

(Мікрахвалёвая печ)

***Ад Даны ГУШЧА***

Што за дзіва-агрэгат?
Можа ўсё рабіць падрад:
Падлічыць і праспяваць,
Фільм цікавы паказаць,
І са мною пагуляць,
І найлепшым сябрам стаць!

(Камп'ютар)

Ля камп'ютара сяджу
Я ў школе.
Але провад не грызу
Аніколі.

(Камп'ютарная мышка)

Адным вокам пазірае,
Але ўсё запамінае.

(Фотаапарат)

***Ад Яны МАРГЕВІЧ***

Без языка ён і без рук,
Вачыма размаўляе.
Чырвоным гляне —
Спыніць рух.
Зялёным — дазваляе.

(Святлафор)

Калі ляціць — гудзіць,
Калі сядзіць — маўчыць.
Нектар, пылок збірае,
У мёд ператварае.

(Пчала)

***Ад Насці ЛАШЧЭЎСКАЙ***

У пакоі пыл глытаю
І за ўсімі прыбіраю.
А пакуль так прыбіраў,
Многа пылу назбіраў.
Зараз трохі адпачну,
Потым зноў глытаць пачну.

(Пыласос)




***Маці пытаецца ў сына:***
***— Чаму гэта твой дзённік у кутку стаіць?***
***— А я яго за двойкі пакараў! — адказвае сын.***

Дачка вучыцца на повара. Маці ў яе пытаецца:
— Скажы, а вам дазваляюць есці тое, што вы самі прыгатавалі?
Дачка (праз слёзы):
— Нас прымушаюць!

***Ляціць сава і крычыць:***
***— Угу! Угу! Угу!***
***Бэмц! У дрэва ўрэзалася.***
***— Ого!***

Дырэктар школы ўбачыў на школьным двары пінгвіна, выклікаў Вовачку і загадаў адвесці птушку ў заапарк.
На наступны дзень глядзіць: зноўку пінгвін гуляе каля школы разам з Вовачкам.
— Вовачка, — закрычаў дырэктар, — я ж прасіў цябе ўчора пінгвіна ў заапарк адвесці!
— Ды былі мы з ім учора ў заапарку! — сказаў Вовачка. — А сёння ён у кіно просіцца!

## Падарунак ад Вожыка

Вожык
Часопіс сатыры і гумару



*Мастак АЛЕГ КАРПОВІЧ*